## ЗМЕСТ

*Стар.*



# ВЫБУХОВЫ ГРУЗ

Я, рэбяткі, выступацьневялікі майстар. Тым больш, што адукацыя ў мяне ніжэй сярэдняй. Граматыку дрэнна ведаю. Але калі ўжо такая справа і вы мяне, рэбяткі, ад душы прывіталі, дык скажу...

Значыць, так... Па парадку. Калі вашу мясцовасць яшчэ толькі пачалі з-пад немцаў вызваляць, атрымоўваю я з маім напарнікам, Лёшам Клокавым, ад упраўлення дарогі назначэнне: суправаджаць вагон з Масквы. А ў вагоне, растлумачваюць, груз надзвычайнай важнасці, асобага назначэння і вышэйшай тэрміновасці.

— Наконт самога груза,—кажуць,—ты, Севасцьянаў, праз меру не гавары па дарозе. Намякай, што, моў, сакрэтна, і ўсё. Бо могуць трапіцца якія-небудзь не зусім свядомыя і адчэпяць цябе на малую хуткасць. А справа вельмі тэрміновая. Пуцёўка ў цябе самім таварышам народным камісарам падпісана.

— Адчуваеш?—кажуць.

— Разумею,—кажу.

Выдалі нам, што патрабуецца: кажухі новыя, дзве вінтоўкі, шапкі-малахаі, ліхтары там сігнальныя... Ну,

словам, усё наша абзавядзенне, як трэба. Вагон наш перагналі з таварнай станцыі на пасажырскую і падчапілі на вялікую хуткасць да паштовага поезда дальняга следавання.

Дзінь-бом, другі званок, пасажыры ў вагон, праважаючыя прэч, пішыце пісьмы, вельмі не сумуйце, зусім не забывайце, паехалі!

— Ну,—кажу я свайму Лёшу Клокаву,—у час добры, з богам. Груз у нас асаблівы. Так што ты зразумей: вокам міргнуць нельга на днявальстве. Словам, глядзі, каб усё ў нас было ў цэласці і захавана да апошняга. А не, дык я цябе, Аляксей, мілы чалавек, па ўсіх законах ваеннага часу шмаргану.

— Ды хопіць вам, Панас Гурыч!—Гэта Аляксей мне кажа.—Я і сам разумею, што за груз. Гэта вы мне лішняе кажаце.

Раней дык ад Масквы да вас ехаць не так доўга было. На сёмыя суткі грузы прыбывалі. А цяпер, вядома, дзе-ні-дзе ўкругавую даводзіцца аб'язджаць, тым больш, што назначэнне ў раён баявых дзеянняў.

Я ўжо на фронт не раз з эшалонам хадзіў. І пад вагонам пры бамбёжцы ляжаў і на абстрэл нарываўся. Але на гэты раз справа зусім асобная. Груз ужо вельмі цікавы!

Вагон далі нам добры, нумар 172 — 356 таварны. Тэрмін звароту — люты будучага года. Агляд апошні ў жніўні быў. І ўсё гэта на вагоне абазначана. Пляцовачка маецца тармазная, чын-чынам. На пляцоўцы самай той мы і ехалі. Вагон у Маскве запячаталі пад пломбу, каб не было гаворак, які груз.

Дзяжурылі, значыць, па чарзе з Аляксеем. Ён днявапіць—я ў рэзерве абаграюся. Я заступіў—ён у рэзервны вагон адпачываць ідзе. Так і ехалі. Прыбылі на пяты дзень на вузлавую. А адтуль, значыць, нам трэба паварачваць па свайму назначэнню. Адчапілі нас.

Стаім гадзіну, дзве стаім. Чакаем цэлы дзень. Тарчым другія суткі — не прычапляюць. Я ўжо з усім начальствам на станцыі перасварыўся, да самага грузавога

дыспетчара дайшоў. Сядзіць такі ў кепцы, пры акулярах, у памяшканні гарачыня, печка напалена да нясцерпнасці, а ён яшчэ каўнер падняў. Перад ім на стале тэлефонная трубка рупарам на рассоўцы. А з кута ідзе рупар, яго розныя галасы выклікаюць. Гэта па дарожнаму тэлефону-селектару размова ідзе. Толькі і чуваць: «Дыспетчар! Ало, дыспетчар! Чаму семдзесят чатыры дроб восем не адпраўляецце? Дыспетчар, санітарная лятучка просіцца. Прымаць, дыспетчар?» А ён сядзіць, быццам і не чуе, адкінуўся ў крэсле і бурчыць сабе ў рупар: «Камень бутавы—тры платформы. Кара берасклета — дванаццаць тон, напрамак—Стаўропаль. Валасы жывёлы—тры тоны, Краснадар. Пух-пяро тона з чвэрцю. Скурсыравіна — дзве з паловай». Я сваімі паперкамі шамацець пачаў, перад яго акулярамі дакументамі размахваю, пячаткі здалёк паказваю, а чытаць у падрабязнасці не даю. Такі, думаю, бюракрат, суконная душа, не можа зразумець, які я груз вязу.

Не! Куды там... І глядзець не жадае і падчапляць мяне адмаўляецца, адпраўлення не дае, загадвае чаргі чакаць. Лёшка мой не вытрымаў.

— Слухай, — кажа, — зразумей, груз-жа ў нас асобны, сакрэтны! Не дай бог,якая паветраная небяспека, дык вас саміх ад нашага вагона на пух-пяро разнясе.

— Чакайце, — кажа той, — так вы адразу-б і аб'явілі, што ў вас груз выбуховы. Што-ж вы двое сутак маўчалі? Стаяць з такім грузам і маўчаць! Ідзіце хутчэй, на трэцяй пуці воінскі эшалон састаўляецца, праз гадзіну адпраўленне даю. Калі начальнік спрачацца не будзе, я ваш пастаўлю.

Бяжым да ваеннага эшалона. Я Алёшу Клокаву кажу:

— Слухай, Клокаў, дзе-ж гэта ты ў нас узрыўчатку знайшоў?

Смяецца:

— Маўчы сабе, Гурыч, у паперку. Гэткі камень бутавы толькі ўзрыўчаткай і калыхнеш. Сам бачыш.

Ну, увогуле, угаварылі. Паставілі нас у хвасце. Праз гадзіну далі адпраўленне.

Цяпер такая карціна. Эшалон гэты на самы фронт ідзе. Вязуць усякае такое, чаго вам і ведаць не прадугледжана, не магу сказаць. Адным словам, узрыўчатым вагонам спалохаць іх ужо нельга. Куды там! Ну, а напраўленне наша ідзе на станцыю Сінегубаўка. А потым раз'езд Сцепнякі, Малібога, Сінерэчынская, Рыжыкі, Бор-Гарэлы, Старыя дубы, Казявіна, Казадоеўка, Чыбрыкі, Гаць і, значыць, ваш горад, станцыя назначэння. А фронт тут кручаны. І ў мясцовасці дзе-ні-дзе баі. Так што ехаць трэба асцярожна.

Дзень едзем, нічога, парадак. Праўда, лёталі над намі нейкія, кружыліся. Адны кажуць — нашы, другія даказваюць — немцы. Хто іх разбярэ! Бомбамі не кідаліся. І ў нас у эшалоне на двух пляцоўках зеніткі былі — агню не давалі.

А мясцовасць вакол моцна пашкоджаная. Нядаўна яшчэ тут немец быў. Спаліў усё, злодзей, зруйнаваў, пазіраць балюча. Пустыня гарэлая... І дарога на жывую нітку пашытая. Ледзь едзем.

Прыбылі мы пад вечар на станцыю Сінерэчынскую. Пайшоў я за кіпятком, чайком вырашыў сагрэцца. Хлеба атрымаў па рэйсавых картках. Вяртаюся назад, да свайго вагона.А вечар быў дажджлівы, ветраны. Прабрала мяне вельмі. Іду, мару пра чаёк. Узлажу на пляцоўку — бачу,сядзіць нехта. Забраўся ў кут, як венік.

— Гэта яшчэ што за павелічэнне сямейства, Клокаў, ты чаго глядзіш? Не бачыш, пабочная асоба? Законапарадкаў не ведаеш?

А гэта дзяўчынка, гадкоў гэтак дванаццаць. Сядзіць, надзьмулася. На ёй куртка ватняя, брудным рушнікам перапаясана замест пояса. З-пад вузкай хусцінкі стрыжаныя валасы тырчаць. Худая, нямытая. А вочы так і стрыгуць.

— Дзядзечка, мяне з таго поезда высадзілі. Можна? Мне толькі да Казадоеўкі даехаць.

— Якія, кажу, такія Казалупаўкі, Казадоеўкі! Інструкцыі не ведаеш? А ну, кыш-кыш, варушыся, бач, якія завяліся! Скідай адсюль твае мяхі. Бач, якая спрытная, прымасцілася. Спекуляцыяй займацца ездзіла? Налаўчылася з малых год, — кажу я ёй.

А яна:

— Я, — кажа, — не спекуліраваць. Гэта я сухары вязу сваім. Я іх ужо два гады не бачыла. Вось так і паехала да цёткі за Растоў, а сюды немцы прышлі. У мяне там, у Казадоеўцы, маці і брацік Сярожа.

— І размоў тваіх слухаць не хачу. Злазь!—Але тут Клокаў мой падыходзіць, адводзіць мяне ўбок і кажа:

— Слухай, Гурыч, а няхай сабе едзе. Ад яе вось не зламаецца, букса не згарыць, поезд не расчэпіцца. Замарылася дзяўчынка.

— А ты што,—кажу,—Аляксей, розуму ў цябе хоць на капейку засталося? Ваенны эшалон, вагон надзвычайны, а мы зайцоў вазіць будзем. Бач ты, пашкадаваў, які добранькі.

Дзяўчынка як падскочыць! Куртка ватняя да кален ёй, рукавы загорнуты. Ускінула мяхі на плячо — і давай мяне прабіраць:

— Ох, дрэнны ты вельмі, — кажа, — дзядзька! І твар у цябе крывы, гэта цябе ад злосці перакасіла. У цябе і злосць, як у сабакі косць, папярок горла стаіць!

І прасуе мяне ўсякімі такімі словамі. Гэткая дзёрзкая дзяўчынка!

Я кажу:

— Цыц, зараз-жа! Ты за каго сябе разумееш? Ты хто? Дрэнь, дый і ўсё. Нуль цана табе. Бач ты, якая дзёрзкая. Я за цябе ў пяць разоў старэйшы ды ў сто разоў разумнейшы, а ты мне такія словы. А кпіць з мяне, што крыху на адзін бок павяло, дык гэта зусім сорамна. Гэта ў мяне яшчэ ад крушэння з той вайны.

А яна мяхі сабрала свае, клуначкі павесіла — ды раптам адвярнулася, у сценку вагона ілбом уткнулася ды як зараве, загалосіць, быццам паравоз ля закрытага

семафора. На ўсю станцыю чуваць. А ў мяне ніякага інтарэсу няма лішнюю ўвагу на наш вагон прыцягваць. Ужо прычапілі, едзем, ніхто не правярае, што за груз, і слава богу, маўчы сабе... Куды там! Раве, не сціхае. Дый і голас такі прарэзлівы, што проста такі ў абодва вухі забіраецца і ў мазгах свярбіць, у самай сярэдзіне. Ды тут яшчэ Аляксей мой, божы чалавек, зноў заступаецца:

— Панас Гурыч, добра, давязем яе, ніхто і не заўважыць.

— Няма чаго мяне ў цары Ірады залічваць, — кажу. — Што мне, шкада, ці што, няхай едзе. Толькі я ведаць нічога не ведаю. У выпадку ўбачаць — ты ў адказнасці, з цябе няхай патрабуюць.

Дзяўчынка да мяне кідаецца:

— Можна, так? Дазволілі? — і пачынае мяшэчкі з плеч скідваць. — Дзякуй вам! Не, вы таксама нішто. А спачатку я спалохалася. Вось, думаю, наскочыла на якога нядобрага... Дзядзя, а вас як завуць?

— Хопіць, ты многа не гавары. «Дзядзя, дзядзя!» Завяла. Я цябе ў пляменніцы не запрашаў.

— А як-жа вас тады: дзядуля?

— Які-ж я дзядуля? Ты пазірай лепш. Вус у мяне без сівой іскры.

— Гурыч яго завуць, — Аляксей кажа, — Гурыч.

— Фы! Смешна як...

— Што тут смешнае знайшла? Звычайнае імя, рускае, родаслоўнае. Ад Гурыя ідзе. Смешна ёй!.. Вось зганю цябе з вагона — пагляджу тады, якія табе хіханькі будуць. Бярыся лепш за справу, адвязвай кубак, я табе кіпятку налью. Вось яшчэ, — кажу, — зайцоў я не вазіў, дык зайчыха прыблукала. На, пі, глытай. Ды не давіся, апячэшся, ты, Анчутка!

— Я, — крыўдзіцца, — не Анчутка, мяне Дашай завуць. Маркелава маё прозвішча.

— Ну, пі ды больш маўчы. Дар'я-скіпідар'я, сярдзіты самавар. Гарачая якая. Пара з вушэй ідзе.

Ге яна чай, дзьме, апякаецца. Потым кінулася капацца ў клунку сваім: выцягнула цыбулінку, поўцыбулінкі Аляксею дала і мяне пачаставала:

— Ешце, дзядзя Гурыч, ешце! Гэта мы з цёцяй на агародзе самі вырасцілі. Яна карысней за ўсё, цыбуля. У ёй вітамін. Ад яе карысць усяму здароўю. Вы пасаліце, у мяне соль ёсць, хочаце? Дзядзя Гурыч, а што ў вас у вагоне едзе?

Аляксей рот было адкрыў, але я тут на яго прыкрыкнуў:

— Клокаў, — кажу, — закры рот зноў! А ты ўжо рада, вушы расставіла. Табе, Дар'я, гэтага ведаць не трэба. Груз асобай важнасці, пад пломбай. Едзеш — і скажы дзякуй. Усё ведаць ёй трэба. Да чаго вострано́сая дзяўчынка!

Прыехалі мы на станцыю Рыжыкі ўначы. Зайка наш у мой кажух загарнуўся, прытуліўся на пляцоўцы, заціх, спіць. Толькі мы прыбылі — завылі паравозы, зеніткі застукалі: трывога. Наляцела на нас штук, я лічу, дзесяць. У цемры дык не разбярэш, але, думаю, не меней. Раскінулі асвятляльныя люстры па небу — і давай нас, як міленькіх, бомбамі малаціць. Дашутка прачнулася.

— Бяжы, — крычу я, — бяжы, — кажу, — вунь за станцыю, кладзіся ў канаву за вадакачкай.

А яна не спяшаецца.

— Я, — кажа, — лепш тут, з вамі. А то мне там адной яшчэ страшней будзе.

Аднак я яе ўсё-такі прагнаў у канаву. А сам з Лёшай астаўся пры вагоне. Ці мала што...Загарыцца раптам, а груз у мяне такі — толькі іскарку давай, займецца агнём. Гаручы груз.

Вот, думаю, непрыемнасць! Ужо зусім блізка да назначэння, а такая раптам праруха атрымоўваецца. А з Рыжыкаў якраз паварот на тую ветку ідзе, куды нам напрамак дадзены. І нас ужо адчапілі ад эшалона. Як трывога пачалася, эшалон адразу з станцыі адправілі. А наш вагон стаіць адзін на вольным пуці, і немцы яго



ракетамі асвятляюць. І нумар мне добра відаць: 172 — 356, і тэрмін звароту — люты на той год.

«А-яй-яй, — думаю, — Панас Гурыч, не будзе табе звароту ні ў тым, ні ў бягучым годзе, ні праз векі вякоў. Зараз як чмокнуць нас зверху, так і костачак тады тваіх не занумараваць».

Вакол мяне бомбы рвуцца, ва ўсе бакі ляціць агонь, асколкі ўпрыпляс скачуць па пуцях. А я каля вагона бегаю, на людзей натыкаюся, загадваю вагон наш адсюль забраць хутчэй. Кажу, так і так, моў, у мяне асобы груз, узрыўчаты. А ад мяне ўсе ўцякаюць. Я ўжо за імі бягу, крычу:

— Стойце! Гэта я так сказаў. Гэта я ад сябе для таго, каб хутчэй. Ніякі ў мяне не ўзрыўчаты! У мяне там...

Не паспеў я дагаварыць, ахнула громам каля мяне. Абдало ўсяго полымем, ударыла аб зямлю. Прыадкрыў я вочы, светла вакол, светлым-светла. І гляджу— гарыць наш вагон. Загінуў груз!

Кінуўся я да вагона. Па дарозе мяне яшчэ раз у паветры перавярнула. Дзякуй яшчэ, што не на рэльсы, а на мяккі грунт упаў. Падняўся я, падскочыў да ваго-

на, а там ужо Аляксей мой дзейнічае. У руках у яго агнетушыцель шыпіць, а нагамі ён полымя топча. Кінуўся і я полымя таптаць. На мне ўжо спяцоўка гарыць, але я сам сябе не памятаю — груз трэба ратаваць.

Але што-ж вы думаеце? Адстаялі вагон! Добра яшчэ, не шмат загарэлася. Адзін бок вагона крыху пакалечыла: дзверы вырвала, усярэдзіне сёе-тое папаліла, але так усё цэлае, ехаць можна. Толькі адно дрэнна: бачаць цяпер усе наш асобы ґруз—раскрыты на ўвесь белы свет. Прыдзецца везці цяпер на вачах у публікі. Таму што дзірка выгарала немалая.

Адбілі налёт. Дашутку мы з Аляксеем ледзь адшукалі. Забілася са страху ў канаву. Эх ты, з вечара моладзь, а раніцою не знойдзеш.

— Цэла? — пытаю.

— А што мне зробіцца? — адказвае. — Толькі ногі памачыла ў канаве.

Садзіцца на падножку, разуваецца, знімае свае чаравікі — у яе такія вельмі вялікія былі, лыжныя, амерыканскія, адкуль ужо, не ведаю, і вылівае з іх ваду, ледзь не па вядру з кожнага.

— Залазь, — ќажу, — зноў, загортвайся ў кажух, абсыхай. Можаш у самы вагон забірацца. Цяпер у нас уваход і выхад вольныя. Дзверы вунь вывернула. Бывайце, усе нашы замкі, пломбы!

Улезла яна ў вагон.

— Ай, — крычыць, — тут кніжкі нейкія!

— Ну і што? — кажу. — Чаго дзівіцца? Кніжак не бачыла?

Я не памятаю, вам дык я гаварыў спачатку ці таксама не гаварыў, што вагон наш падручнікамі гружаны быў? Ну, буквары там, арыфметыкі, геаграфіі, задачнікі, прыклады ўсякія.

Гэты вагон народны камісар усеагульнай асветы таварыш Пацёмкін з Масквы паслаў у вызваленыя раёны, адкуль немцаў вытурылі. Дзеці тут два гады не вучыліся, немец усе кнігі спаліў. Але навошта вам гаварыць, вы гэта лепш мяне ведаеце. Вось адразу і пасла-

лі з Масквы вызваленым дзецям у падарунак восемдзесят пяць тысяч падручнікаў.

Ну, я так лічыў, што гаварыць, які ў мяне груз, не варта. Тут эшалоны з снарадамі, саставы з танкамі ідуць, воінскія паязды ідуць — франтавыя маршруты, а я з букварамі палезу. Не дарэчы. Груз надзвычайна далікатны. Які-небудзь дурань яшчэ пакрыўдзіцца, і можа сварка ўзнікнуць. А цяпер ужо хаваць як? Усё адкрыта, усім наскрозь відаць.

— Дрэнная справа, — кажу, — Клокаў. Цяпер нас куды-небудзь загоняць на трыдзесяты пуць, і чакай там сваёй чаргі.

А на дварэ ўжо світае. Пайшоў я да начальніка станцыі. Той мяне да ваеннага каменданта накіраваў. Так, моў, і так, тлумачу я каменданту. Маю назначэнне ад самаго галоўнага камісара ўсеагульнага навучання і асветы, дзеці вызваленыя чакаюць, груз вельмі важны, такі груз трэба было-б па зялёнай вуліцы пусціць, як на чыгунцы кажуць, каб усюды зялёны семафор быў, пуць адкрыты. Стаўце нас у першую чаргу.

А камендант пазірае на мяне чырвонымі вачыма, відаць ужо сам начы тры не спаў, змарыўся чалавек. І, вядома, спачатку слухаць не хоча:

— Што такое, тут у мяне без вас пробка, чацвёртыя суткі расшыць не можам. Усё забіта да немагчымасці. Зараз тэрміновы эшалон на фронт ідзе, а вы тут з вашымі арыфметыкамі ды граматыкамі! Пачакаюць вашы двойчы два чатыры. Нічога ім не зробіцца. Бо заўтра прыдзе яшчэ вагон з якімі-небудзь соскамі, слюняўкамі ды распашонкамі, і таксама будзь ласкаў гнаць іх без чаргі?

Я ўжо не ведаю, як мне на яго ўздзейнічаць. Толькі раптам чую ззаду голас такі важны:

— Таварыш камендант, баюся, што дзеці не па вашаму графіку растуць. Калі вы нічога не маеце супраць, я прычаплю гэты вагон да свайго састава.

Паварачваецца і ідзе. Паспагадаў, а сам на мяне і не зірнуў нават. Моў, нічога асаблівага не сказаў. Вось

залаты чалавек! Пабеглі мы на пуці. І чую я здалёк крык ля вагона. Гляджу, стаіць нейкі чалавек, увесь у мазуце, змазчык напэўна, а Дашутка наша ўчапілася ў яго і з рук кніжку рве. У чым справа? Змазчык гэты гаворыць:

— Ды адчапіся ты, спяцоўку падзярэш! Брысь! Вось скупая!..

— Баця, — гэта ўжо ён мне тлумачыць, — у цябе я там бачу брашуркі нейкія. Няўжо шкада адну на закрутку даць? Пакурыць смерць як хочацца!

— Слухай, — кажу я яму. — Гэта не простыя кніжкі. Гэта навуковыя. Можаш гэта зразумець? З самой Масквы вязем. А ты хочаш на дым пусціць. Не сорамна табе?

Ён кніжку вярнуў, паглядзеў, уздыхнуў. Ну, Алёша яму паперку даў усё-такі. Абгортка знайшлася ў нас парваная.

Ну добра. Прычапілі нас да воінскага састава. Крануліся мы па напрамку да фронта. Агледзеўся я, пачаў свае страты лічыць, што згарэла, што парвала, каб акт скласці. Бачу, Дар'я мая ў вагоне зусім ужо прызвычаілася, прыбралася. Да форткі папяровыя фіранкі прырабіла, венчыкі, хітра так выразаныя ўзорамі: крыжы, зорачкі, кветачкі. І карцінкі хлебам на сценку прыклеіла. Зірнуў я на гэтыя карцінкі, на фіраначкі і самлеў...

— Пачакай, — кажу, — гэта адкуль паперу ўзяла? Дзе карцінкі дастала?

— А гэта я, — кажа, — тут падабрала, дарэмна валяліся.

Бачу, гэта яна з падручнікаў старонкі павырывала. Я спачатку хацеў палаяць яе, а потым разабраўся — нічога.Гэта яна з тых кніжак узяла, якія ўсёроўна пры бамбёжцы парвала.

— Дзядзя Гурыч, вы не злуйцеся, — кажа. — Затое, бачыце, як у нас цяпер утульна! Проста як у цёці або дома ў нас, у Казадоеўцы. Вы пакуль стаяць там будзеце, у госці да нас прыходзьце. Ох, мы вас з мамай пачастуем як, напячэм усяго ўсякага! Кулеш па-

казацку зробім са шпікам — я вязу. А ногі, дзядзя Гурыч, выціраць трэба. Вунь вы колькі гразі прыцягнулі. З-за вас не прыбярэш. Лёша, нябось, сам ногі выцер аб салому, а вы ўсё забрудзілі.

Што-ж зробіш, гаспадыню слухацца трэба. Пайшоў на салому, патаптаўся ў ёй, нібы курыца ў сенцах.

Едзем мы, значыць, так, едзем. Не было чаго рабіць. Я падручнікі чытаць пачаў, якія з упакоўкі ўзрывам павыкідвала. Задачы цікавыя трапляюцца. Асабліва адна спадабалася мне, дзевяцьсот пяты нумар. Па нашай спецыяльнасці, чыгуначная задача, на ўсе чатыры дзеянні з дробамі. Я яе нават дакладна запомніў. Ад Масквы да Владзівастока, скажам, 9.285 кіламетраў. З гэтых гарадоў ідуць адзін другому насустрач два паязды. Адзін прайшоў вось столькі, а другі ад гэтага вось нейкую частку, і вось, значыць, трэба падлічыць, ці многа між імі яшчэ засталося да скрыжавання. Цікавая задачка. Пачаў я яе было рашаць, ды адукацыя ў мяне ніжэй сярэдняй, спыніліся мае паязды ў Сібірскай тайзе і ні назад, ні наперад. А Дашутка, хітрая галава, умомант рашыла. Потым пачала мяне яшчэ па табліцы множання ганяць, у разбіўку пытацца. Я нават задыхаўся, пот прабраў.



— Ну, — кажу, —Дар'я, гэтак я з табой, пакуль да месца назначэння дабяруся, дык поўную сярэднюю адукацыю атрымаю.

Едзем мы паволька. Стаім часта. Дарога франтавая, перагружаная. Пуці пашкоджаны. А Дашутцы не цярпіцца хутчэй дамоў дабрацца. Па начах яна не спіць, ледзь прыпынак — машыніста лае, што ціха едзе. Насумавалася. Ды і верна. Пры сонцы цёпла, а пры маці добра. А яна два гады маці не бачыла. Змарнела дзяўчынка, і глядзець на яе шкада. Тоненькая, бледная. Як заспявае ўвечары: «Ёсць кусточак сярод поля, адзінюткі ён стаіць...» ды падхопіць з ёю Лёша, дык у мяне аж сэрца шчыміць. Спрабаваў я было падцягваць, ды ў мяне слух дрэнны з дзяцінства. Смяюцца яны толькі з мяне. Ну, я замоўкну, не крыўджуся. Выйду з ліхтаром на цёмную станцыю, пагавару з галоўным. А потым пагудзіць зноў у цемры наш паравік, пойдзе перазвон па буферах. Чмыхне, задыхае часта паравоз і быццам па нашаму буквару азбуку пачне чытаць: «У! фы! ха! Цэ-ча-ша-шча!» Разгоніцца пад схіл, і пойдуць колы табліцу множання гаварыць. Так і чуецца мне: «Сем на сем — сорак дзевяць...сем на сем...»

Прыбылі мы ў Бор-Гарэлы. Аказалася, немцы наперадзе мост узарвалі. Прыйшлося ехаць укругавую, праз Іярданаўку, Валаватую. Размовы на станцыях трывожныя. Дзесьці, кажуць, нямецкія танкі адрэзаныя ходзяць.

Доўга нас не прымалі на станцыю Стракачы. Нарэшце пусцілі. Толькі зайшлі мы за стрэлку, раптам страляніна. Вакол крык узняўся, кулямёты недзе засакаталі. Я адразу да Дар'і:

— Кладзіся вось тут, за падручнікамі! Ні адна куля не пройме, ляжы.

Раскідаў я кніжкі кіпамі, зрабіў ёй накшталт укрыцця.

— Сядзі, — кажу, — і маўчы.

Мы з Клокавым выскачылі з вагона. Над намі кулі так і чырыкаюць: «цью-цью»... А па стэпу проста да

станцыі, бачым, танкі заходзяць, і на іх чорныя крыжы. Вось гэта прыехалі! Патрапілі!

Байцы з нашага эшалона рассыпаліся ўсе ланцугом, заляглі ўздоўж палатна, адстрэльваюцца. Хто ручным кулямётам дзейнічае, хто з супроцьтанкавага ружжа б'е, хто гранату падрыхтаваў. Мы з Лёшам падпаўзлі са сваімі вінтоўкамі, папрасіліся, каб нас прынялі. Паказалі нам нашы месцы.

Ляжым, страляем з усімі. Задыміўся адзін нямецкі танк. Другі загарэўся. Гэта нашы зенітчыкі з пляцоўкі прамой наводкай па немцах ударылі. Трэці танк якраз на нас павярнуўся. Раптам я-а-к бахне за намі. Азірнуліся, бачым — адзін вагон у нашым саставе, гружаны боеснарадамі, на трэскі разнесла. А з паравоза сігналы даюць, што зараз крануцца. Эшалон пакінуць станцыю спяшаецца.Кінуліся байцы па вагонах. Рвануў паравоз, заскрыгатаў увесь састаў, і пайшоў поезд за стрэлку. А наш вагон як быў апошнім у хвасце, так і застаўся на месцы. Узрывам перад намі вагон выбіла, разарвала хвост поезду, мы і аказаліся адчэпленымі.

— Канчаткова прапалі мы, Алёша, — кажу я. — Давай хоць вагон узарвем, каб немцам груз не здаваць.

У нас гранаты былі. Я адпоўз далей, ужо было размахнуўся, ды раптам успомніў пра Дашутку нашу. У вагоне-ж яна заставалася. Ах ты, назола!

А з нямецкага танка ўжо выскачылі салдаты, рассыпаліся, бягуць да нас, страляюць на хаду. Клокаў падпоўз да мяне і гаворыць:

— Гурыч, давай хутчэй выцягвай Дашку і канчай вагон. На табе яшчэ адну гранату. А я іх пакуль тут затрымаю.

Сам прымасціўся за насыпам, вінтоўку на рэльсу паклаў і б'е немцаў на выбар. А я паўзком, паўзком, пасунуўся да вагона, нырнуў пад яго, пралез, падняўся з другога боку і толькі ўзабраўся на пляцоўку, бачу, ад семафора, з-за павароту, бранявік па рэльсах ідзе, накшталт аўтадрэзіны. Як ударыць з ходу, дык толькі

паветра над намі забулькацела. Б'є на ўсім ходу бронемашына па немцах, спяшаецца на станцыю. А на пуцях абломкі гараць, вось-вось і наш вагон зоймецца.

І пры такой небяспецы высоўваецца з дзвярэй вагонных Дашутка наша, саскоквае ўніз і бяжыць па шпалах проста да браневіка. Кулі вакол яе чырыкаюць, аб рэльсы шчоўкаюць, таго і глядзі зачэпяць.

— Дашка, дурань, кладзіся зараз-жа! Куды палезла?..

А яна падбягае проста да браневіка. Адтуль з люка камандзір паказаўся.

— Дзядзя, — крычыць Даша, — дзядзечка, чапляйце нас хутчэй, вязіце! А то мы зараз прападзем зусім.

Я таксама на карачках падабраўся туды. Падняцца баюся, вельмі-ж ужо шмат нада мной гэтых свінцовых пчол лётае. Стаю на чатырох, вярней будзе сказаць на трох кропках: правую-ж руку да шапкі прыклаў, як належыць, усё-такі з камандзірам размаўляю.

— Таварыш дарагі, дазволь звярнуцца!.. Зрабі ласку, дапамажы. Урадавы груз вязу, надзвычайнага назначэння, ад самога народнага камісара. Вызваляйце! Хоць дзяўчынку прыміце!

— Чакай! Што за груз такі? Хутка!

— Ды, — кажу, — выбачайце, кніжкі вязем. Вельмі цікавыя.

— Хопіць! Зразумела. Вас і патрэбна нам. Мяне камандзір з раз'езда за вамі паслаў. Хутчэй скачы ў вагон да арыфметыкаў сваіх, — загадвае камандзір. — Гэта чыя дзяўчынка? Твая? Чаго-ж яна ў цябе без нагляду пад кулямі бегае? Ну, хутка!

Выскакваюць з бронемашыны двое, скідваюць з пуці абломкі. Бранявік падаюць да майго вагона. Гармата ў вежы туды-сюды ствалом водзіць, страляе, акуратненька немцам порцыі выдае. А тымчасам байцы тоўстым ланцугом прыкручваюць мой вагон да свайго крука.

— Хутчэй давай! — загадвае камандзір, а голас у яго гучнейшы за гармату. — Паварачвайся, Ткачэнка, не марудзь!

А я крычу з-пад вагона:

— Клокаў! Алёша! Давай сюды хутчэй! Едзем!

Не адказвае Клокаў.

Падбег я, нагнуўшыся да таго месца, дзе Алёша за насыпам адстрэльваўся. Падбег туды, ды і сам упаў на зямлю. Ляжыць мой Аляксей, галавой уткнуўся ў рэльсу, а з рэльсы на шпалу кроў цячэ...

— Алёша, Алёша! — крычу. — Ты што, Алёша? Гэта я, чуеш? Гурыч гэта.

Камандзір з бронемашыны кліча:

— Гэй, кандуктар, як цябе там... Доўга ты будзеш? Я цябе чакаць не збіраюся.

Я крычу:

— Таварыш камандзір! Памочніка майго раніла, напарніка...Памажыце, — прашу.

Падскочылі два байцы, узялі Алёшу на рукі, а я яму галаву прабітую падтрымліваю. Паднялі мы яго ў наш вагон, узабраліся і самі з Дашуткай. Загрымела машына, кранулася, пасыпаліся ў нас падручнікі ў вагоне, і пайшоў наш нябачаны ва ўсім свеце поезд са станцыі. Наперадзе бранявік, а за ім наш вагон.

Шмат я ў сваім жыцці паездзіў, усю Расію пракалясіў, а такім манерам яшчэ ад роду не ездзіў. Не даводзілася. Грыміць наперадзе бронемашына, імчымся мы за ёй. Скача вагон на стыках, кідае яго з боку ў бок, вось-вось з адкосу ўніз зляцім...

Але мне не да гэтага было. Я Алёшу перавязваю. Мне байцы свой індывідуальны пакет далі, з марляй там, з ватай. Дашутка мне дапамагае, а ў самой зубы ляскаюць. Хоць яна іх сціснуць імкнецца і ўсё хоча адвярнуцца, каб на кроў Алёшыну не глядзець.

— Ты патрымайся ўжо, Дашанька, — кажу, — не млей. Калі патрапілі мы з табой на вайну, дык тут «агу— не магу» забудзь. Не маленькая.

— Шкада мне вельмі, — кажа. — Раптам калі небяспечна!..

Забінтавалі мы Алёшу галаву, як маглі. Я яму падклаў кніжкі, каб вышэй было, кажух падаслаў. Маўчыць Алёша. Толькі калі страсяне вагон на стыку, стогне ціхенька. І як гэта яму давялося пад кулю патрапіць, вось-жа гора якое!

— Клокаў! Алёша!.. — кажу яму я ў самае вуха. — Хопіць табе, ачухвайся. Гэта я, Гурыч. Ну як, лягчэй табе?

Адкрыў ён вочы, зірнуў на мяне і лёганька так губамі заварушыў:

—Гурыч... Калі даедзеш... скажы рэбятам, як мы іх везлі...

— Ды кінь ты, Клокаў! Мы з табой, Алёша, разам яшчэ вучыцца будзем.

Не памятаю, што ўжо я яму тады казаў такое, але сам ужо бачу, што справа дрэнь. Зусім нікуды справа. Не даехаць Аляксею. Цень ужо яму на твар заходзіць.

— Клокаў, — кажу, — ты патрымайся, мілы! Якжа я без цябе адзін? Усё гэта зразумей. Быць гэтага не можа... Ты слухай, Алёша... А, Алёша!

Захаладзела яго рука ў маёй. Паслухаў я сэрца, шапку зняў, прыклаў вуха да грудзей. Толькі колы пад падлогаю грукаюць і аддаюцца ў ціхіх грудзях Алёшыных. Канец. Відаць, памёр. А Даша зірнула на мяне і зразумела ўсё адразу. Адышла ў далёкі кут вагона, села там камячком, падхапіла рукамі каленкі і, чую я, шэпча:

— Добры быў, за ўсіх лепшы. Гэта ён мяне першы пусціў.

Але я і сам думаю, няправільна атрымалася. Маладзейшы ён за мяне, жыць-бы яму ды пажываць. А вось куля яго выбрала.

— Ну што-ж зробіш. Дашанька, не ўсім паміраць у чаргу. Так ужо вышла. А нам з табой, відаць, яшчэ ехаць трэба.

Хацеў я яшчэ нешта сказаць, ды і слоў не знайшоў. Тут з браневіка крычаць мне:

— Гэй, кандуктар, тармазі!

Я выскачыў на пляцоўку, пачаў прыкручваць тармазы, каб вагон не насеў на хаду на бронедрэзіну. Загрымелі стрэлкі пад коламі, уэляцелі мы на станцыю. А вакол людзі збягаюцца, байцы з эшалона крычаць, здзіўляюцца.

— Вось гэта дык так! Вось гэта дастаўлена, — кажуць, — вышэйшай хуткасцю!

Ну, я падзякаваў камандзіру, толькі аб'явіў, што не да радасці мне, таварыш забіты. Пабеглі за ўрачом, ды позна ўжо. Не патрэбен урач...

Пахавалі мы Алёшу Клокава тут-жа, каля станцыі Старыя Дубы, за разбітай вадакачкай. Я дошку абчасаў, двума каменнямі на магіле ўмацаваў. А на дошцы напісалі так:

«Клокаў Аляксей Пятровіч. Год нараджэння 1912. Баец чыгуначнага транспарта. Загінуў смерцю храбрых пры дастаўцы асобага груза ў вызваленыя раёны. Дзеці, школьнікі, не забывайце яго. Ён вёз вам кніжкі з Масквы».

Паставілі нас зноў у хвост эшалона. Едзем удваіх з Дашуткай. Маўчым. Усё пра Алёшу думаем. За што ні вазьмуся — усё яго нехапае. Якую размову ні пачнем, абавязкова Алёшам скончым. І не верыцца мне ніяк, што няма ўжо яго зусім. Усё думаецца, зараз на поўстанку пабегае, што ў газетах новенькага дазнаецца, Дашку развесяліць...

Праз два дні к вечару прыбылі мы ў Казавіна.

Станцыя забіта саставамі. З фронта ідуць, гружаныя усякай разбітай тэхнікай: танкі на іх нямецкія — тыгры»,пушкі «фердынанды». Да фронта саставы ідуць ваеннага назначэння. І ўсякі тавар гоняць для вызваленых раёнаў. Тут і хлеб, і цыстэрны, і іншае. Адсюль наш эшалон да фронта паварачваў.

Развіталіся мы з начальнікам эшалона за руку, пажадалі адзін другому шчаслівага шляху. Адчапілі нас,

паставілі на запасны шлях. Пайшоў эшалон. Зноў я бегаю па станцыі, хлапачу, патрабую тэрміновай адпраўкі. А ўжо ноч апусцілася і дождж ідзе. На станцыі хоць вочы выкалі. Поўнае зацямненне. Ды немцы яшчэ нядаўна нагаспадарылі тут перад адступленнем. Вакол рэльсы вывернутыя валяюцца, шпалы расколатыя, шчэбень, балкі жалезныя, скаты вагонныя. І ўдзень нават ледзь пройдзеш. А тут нічога не відаць. Бегаю я па пуцях, спатыкаюся аб усё. А ліхтар у мяне, як на грэх, ветрам задзьмула.

І раптам мне гавораць ля блок-паста:

— Ідзіце хутчэй, ваш вагон даўно прычэплен, адпраўляюць.

Пабег я назад. Няма нідзе майго вагона. Не магу знайсці. Сюды бягу, туды кідаюся. А ў цемры разабраць нічога нельга. Бегаю, як вар'ят, па станцыі, ледзь не плачу. Пытаюся ўсіх: «Не бачылі вагон нумар 172—356, з аднаго боку гарэлы?» Не, ніхто не бачыў. Ды хіба і ўбачыш тут што-небудзь у гэткай цемры! А дождж лье ўсё больш і больш. Прамок я да ніткі. Дрыжу ўвесь, як асіна. Забег я некуды на пуці, дзе ўжо і людзей няма, пытацца няма ў каго. Толькі вецер у цемры рваным жалезам грыміць. Чую, састаў нейкі пайшоў і якраз у той бок, куды і нам ехаць. Бягу я між саставаў, а злева і справа насустрач і ўдагонку колы грукацяць. Стой, пачакай! Вось ён мой вагон, абгарэлы збоку, і пляцоўка тармазная. Перагнаў мяне. Ледзь зачапіўся на хаду за поручні, наваліўся на пляцоўку, ледзь залез. Ну, слава табе, госпадзі!

— Дар'я!—крычу я ў вагон.—Жыва, здарова? Зачакалася, напэўна... Ай, Дашутка! Ты што, заснула, ці што?

Не адказвае. І ціха ў вагоне, няма нікога, пуста. Сціснулася ў мяне сэрца. Ах, Дашка ты, Дашка! Вось і спадзявайся на цябе. А абяцала вартаваць. Зачакалася, напэўна, пачала шукаць мяне, ды і заблудзілася. Дзе ўжо тут дзяўчынцы знайсці, калі я і сам дык цэлую га-

дзіну блытаў! Шкада мне стала дзяўчынку, ды што-ж рабіць? Дзе-ж яе цяпер шукаць? Вядома, адстала Дашка. А мяне ўсяго трасе. Прамок вельмі. І да таго пальцы застылі—ліхтара запаліць не магу.

Вырашыў я спачатку сагрэцца. Пашукаў у куце: стаяла там у мяне даўно нарыхтаваная поўлітровачка. Ледзь знайшоў—упала, адкацілася да другой сценкі. Выбіў я пробку, кракнуў, хлебануў. І палезлі ў мяне вочы пад самыя бровы. Браткі мае! Ды што гэта такое? Усякага я ў жыцці спытаў, самага моцнага... Маляры мяне раз было палітурай частавалі — нічога... А другі раз музей эвакуіравалі, замерз я на ветры, дык студэнты мяне навуковым спіртам з-пад яшчаркі саламандры частавалі. Але такога зверства ў мяне яшчэ ў роце ў жыцці не было. Падобна, што запальваючую бомбу праглынуў. Сеў я на падлогу, а потым упаў зусім і ляжу, раскрыўшы рот, быццам селядзец на талерцы. І як людзі дыхаюць—забыўся і голасу няма. Толькі хлюпаю, нібы дзіравы бот. А вокал мяне і ў сярэдзіне ў мяне ўсё карболкай смярдзіць. Аддыхаўся я крыху, запаліў свой ліхтар, бачу — мілыя мае! ды я не ў свой вагон забраўся... Вагон таксама пашкоджаны, відаць, пры бамбёжцы, але толькі вакол бутэлькі нейкія стаяць, аптэкай пахне.

Тут я ўцяміў: гэта я ў вагон з медыкаментамі забраўся. Лякарствы, медыкаменты таксама, відаць, з Масквы паслалі для больніц у вызваленыя раёны. А я ў цемры абмішурыўся, карболаўкі хапіў. Увогуле поўную сабе ўнутраную дэзінфекцыю зрабіў і—адчуваю, рэбяткі, гэтыя самыя мікробы з мяне давай бог ногі. Ледзь адчыхаўся. Потым чых прайшоў, ікота ўзяла. Ну, слава богу, думаю, добра хоць карболаўка пад руку трапіла, а то мог яшчэ ёду напіцца.

Так. Ну, дапусцім, палячыўся, а што-ж далей рабіць? Дзе мне мой вагон шукаць цяпер, дзе Дар'я мая, Анчутка няшчасная? Хацеў я было саскочыць на хаду, ды поезд разагнаўся пад ухіл. І якая карысць саскокваць на перагоне? Што я адзін ў полі буду рабіць, ды

яшчэ ноччу... Вось камісія папа Дзянісія, гісторыя кума Грыгорыя!

Заўважаю, аднак, што тармозіць поезд, відаць, да станцыі пад'язджаем. Як стрэлку праехалі, я, не чакаючы астаноўкі, саскочыў.

Ціха вакол. Саставы стаяць. Цёмна. Людзей не чуваць. Потым ражок недзе заспяваў, паравоз закрычаў, буферы задзынкалі. Пралез я пад вагонамі, пабег туды. Адпраўляюць нейкі састаў.

— Што за поезд? — пытаюся.

З цемры зверху адказваюць:

— Санітарная лятучка.

Гэта раненых з фронта вязуць у шпіталь. І ідзе састаў у бок той станцыі, дзе я свой вагон згубіў. Пачаў я прасіцца ў цяплушку, не пускаюць. Кажуць, перапоўнена ўсё, месца няма. Я ўсё-ж ускочыў на ходу, а мне загадваюць саскочыць, ледзь не спіхваюць.

— Не дазваляецца, — кажуць,—у санітарным поездзе пабочных вазіць.

— Дружочкі,—кажу,—паважаныя, я-ж не пабочны. Я ад свайго вагона адбіўся. Сам па гэтай навуковай частцы.

Чую, у цемры пасоп нехта, быццам прынюхаўся, ды і кажа:

— Хто яго ведае. У цемры не відаць. Але пах ад яго, верна, медыцынскі. Добра, няхай да станцыі даедзе.

Так я і трапіў зноў на тую станцыю. А тут ужо крыху світаць пачало. Бегаю я зноў па пуцях, крычу:

— Дашутка, Дар'юшка мілая! Аукніся, падай голас!

І раптам чую аднекуль, з другога пуці:

— Тут я, тут, дзядзя Гурыч!

Кінуўся я ў той бок, пасвяціў ліхтаром. Вось ён мой надзвычайны, асобнага назначэння! Дашка як кінецца мне на шыю проста зверху! Я нават на зямлю сеў. А потым раптам як пачала мяне абодвума кулакамі барабаніць—і ў грудзі і па шапцы.

— Ды ты звар'яцела, ці што?

ына ў плач:

— Ды вы навошта адну мяне кінулі! Цёмна, боязна. А потым самалёты прылятаді, дзве бомбы кінулі. А вас няма і няма... Я думала, ужо вас забіла, як Лёшу... Толькі я, дзядзя Гурыч, нікуды ад вагона не адыходзіла. І калі налёт быў, усе пабеглі, а я дык тут і вартавала, як вы загадвалі. Усю ноч. Толькі замерзла вельмі.

І сама зубамі ляскае.

Ну, праехалі мы яшчэ дзень і прыбылі нарэшце на гэтую самую Казадоеўку. Дашутка мая валасы расчасала, памылася з чайніка, рэчы свае сабрала і падае мне руку, як дарослая: пальцы ладачкай, акуратна.

— Дзядзя Гурыч, вялікае вам дзякуй, што давезлі. Вельмі вам удзячна з мамай, па ўсё жыццё. Калі вам адыходзіць ад вагона нельга, дык я сама зараз збегаю дадому, а потым з мамай прыду да вас, есці прынясу. І бялізну збярыце мне, мы вам адразу з мамай тут-жа памыем. А то вы ўвесь занасіліся зусім. Шчасліва вам покуль заставацца!

І пайшла. Забрала мяхі свае, клуначкі, ідзе, сама тоненькая, куртка да кален, чаравікі поўвядзерныя па гразі хлюпаюць. А я пазіраю ўслед, думаю: «Вось даставіў дзяўчынку да месца. Цяпер у іх вось ужо радасці будзе! А ты, Афанасій Гурыч, едзь па свайму напрамку. Адзін цяпер... Сваіх дзяцей завясці некалі было, усё жыццё на чыгунцы правёў, ну хоць чужых рэбят кніжкамі парадуй. Усё-ж будзе з цябе нейкі толк».

Скруціў я цыгарку, за кіпятком схадзіў да паравоза, прыкурыў у машыніста. Прайшла гэтак гадзіна, другая. Новы паравоз далі, чакаем адпраўлення. А Дашуткі не відаць. «Вядома, ёй ужо не да мяне», думаю.

І тут бачу, між пуцей бяжыць, спатыкаецца Дашка мая і цягне за руку высокую жанчыну. Убачыла мяне Дашка вырвала руку, пабегла, а на самой твару няма. Кінулася да мяне, прыпала галавой да пляча. Вымавіць нічога не можа, толькі б'ецца ўся, калоціцца галавой сваёй аб мяне і адно гаворыць: «Ой, дзядзя Гурыч...

дзядзечка!..» Нічога не магу зразумець. Пазіраю на грамадзянку, якая з ёй. Падышла яна бліжэй, сама слёзы глытае, шапнула на вуха, і зайшлося ў мяне сэрца. Вось яно якое ліха! Не было куды спяшацца дзяўчынцы. Няшчасная справа атрымалася...

—Як-жа гэта так?—пытаюся. — А яна-ж дачакацца не магла, спяшалася ўсё...

— Гэта,—адказвае,—немцы ўжо перад самым адыходам уварваліся да іх і вось што нарабілі. Ну, Даша, супакойся. Не трэба, мілая... Што-ж рабіць, дзевачка! Дашанька, родная, не трэба...

— А вы самі хто ёй будзеце? — пытаюся.

— Я — настаўніца. Даша Маркелава ў мяне ў класе была. Добра вучылася. А вам, — кажа, — дзякуй, дарагі, што давезлі дзяўчынку.

Пагладзіў я Дашу па галаве. Сціхла яна крыху.

— Эх ты, гора маё!—кажу.—Як-жа ты цяпер тут адна будзеш, беспрытульная?.. Давай, Даша, я цябе на зваротным заездзе, як паражняк будзем гнаць, да цёткі вазьму. Я-б цябе і да сябе ў дочкі забраў, ды жыццё ў мяне перагоннае, на колах маё жыццё, дарожны я жыхар. А табе патрэбна выхаванне.

Настаўніца слёзы выцерла, паглядзела на мяне і кажа:

— Мілы вы, слаўны чалавек... Як вас завуць?

— Апанас Гурыч!

— Дык вось, Апанас Гурыч. За Дашу не бойцеся. Ёй тут добра будзе. У нас дзетдом адкрываецца. Пакуль Даша ў мяне пажыве. Правільна, дзевачка? А потым я яе ў дзетдом аддам. З яе цёцяй мы спішамся.

Заглядзелася настаўніца ў дзверы нашага вагона, і загарэліся раптам у яе вочы, кінулася яна да кніжак.

— Божа мой—кажа,—кніжкі... падручнікі... Сапраўдныя падручнікі. Два гады не бачыла. Госпадзі! Глядзіце, буквары, задачнікі, увесь камплект. Божа мой, не верыцца! Калі-б толькі маглі вы хоць крыху нам пакінуць—Дашы ў прыданае і рэбятам маім... Вось-бы мы

вам, Апанас Гурыч, мілы, дзякуй сказалі вялізнае! Вось-бы мы вас век памяталі!..

Капаецца яна ў кніжках, схопіць якую, прачытае на вокладцы «Граматыка» і да грудзей прыцісне.

Гляджу, зусім яна яшчэ і сама маладзенькая. Толькі састарылася раней тэрміну. Таксама, відаць, нацярпелася. А гора аднаго толькі рака красіць.

— Хоць,—кажу,—у мяне станцыя назначэння і атрымацель, значыцца, іншыя, нічога... Выбірайце, што вам патрэбна. Толькі, таварыш настаўніца, папрашу мне распісачку для справаздачы.

Ну, выбрала яна невялікую стопачку. Распісачку чырканула.

Тут заспявалі, затрызвонілі па ўсяму саставу буферы, тармазы рыпнулі, паравоз голас падаў. Адпраўленне нам.

Нагнуўся я, пацалаваў на развітанне Дашу ў макаўку самую, пракашляўся, хацеў нешта яшчэ сказаць, ды толькі рукой махнуў і палез на пляцоўку.

Пайшоў састаў.

Даша спачатку ішла ўсё хутчэй і хутчэй каля падножкі, рукой за яе трымалася, потым пусціла, пабегла каля вагона, адставаць пачала, усё пазірае на мяне. А настаўніца засталася на месцы, адной рукой падручнікі да сябе прыціснула, а другой здалёк махае мне...

Ну, вось і ўсё, рэбяткі.

А цяпер я прыбыў да вас, і вось вы зараз атрымліваеце гэтыя самыя падручнікі, якія вам паслаў з Масквы таварыш народны камісар асветы. Вось зараз іх вам раздаваць пачнуць. Выбачайце, калі крыху груз не ў поўнай цэласці дайшоў. Бачыце, тут падпаліла крыху. Вось асколкам прабіта. А тут ад кулі след. Гэта калі нас на станцыі абстрэльвалі. А вось тут дзве арыфметыкі крыху крывёю павяло. Гэта на іх Алёша ляжаў. Клокаў.

Бярыце, рэбяты, кніжкі сабе. Для вас і везлі мы іх. Калі вучыцца па іх пачнеце, Алёшу Клокава ўспамінайце і магілку яго ля станцыі Старыя Дубы.

Невысокі крыватвары чалавек скончыў свой расказ, выцер хусцінкай даўгія вусы і, скромна адышоўшы ад стала, надзеў аблезлую шапку з малінавым кантам. У вялікай школьнай залі з напалову выгараўшай столлю, з выбітымі застаўленымі фанерай вокнамі стаяла цішыня. А потым па знаку дырэктара школьнікі адзін за другім пачалі падыходзіць да стала, дзе былі складзены прысланыя з Масквы падручнікі. Маўклівыя і сур'ёзныя, беражліва прымалі рэбяты ў свае рукі кніжкі, старонкі якіх былі кранутыя агнём, кулямі і крывёю...



## ФЕДЗЯ З ПАДПЛАВА

Ён ведаў ужо амаль дзесяць літар, калі я прыехаў упершыню на адну з запалярных баз Паўночнага флота. Гэтага было зусім дастаткова, каб напісаць сваё імя на тарпедзе—на злосць Гітлеру і ўсім фашыстам. За гэтым заняткам я і застаў яго за плятнём з калючага дроту, якім была абгароджана база падводных лодак. Калі я, паказаўшы вартавому свой пропуск, зайшоў на дворык падплава, як маракі называюць скарочана флот падводнага плавання, падводнікі якраз грузілі тарпеды на вялікую крэйсерскую лодку. Даўгое цёмназялёнае шчучае цела падводнага карабля выцягнулася на вадзе ля прычальнай сценкі, ля так званага пірса. Над пірсам навісла вялізная скала. У ёй былі зроблены ўваходы ў падземныя пячэры, дзе захоўваліся тарпеды. Чырвонафлотцы ў рабочых палатняных робах клалі вялізную тарпеду на спецыяльную цялежку і вывозілі з пячэры. Спачатку ў цемры каменнага логава з'яўлялася акруглая галава тарпеды, а затым, апіраючыся на нізкія колы, як на лапы, выпаўзала яна ўся цалкам, падобная на велізарнага трытона, вузкая да хваста, цяжкая, гладкая, злосна бліскаючы на сонцы. На яе клалі тлусты слой змазкі, які нагадваў па выгляду ягаднае варэнне або джэм.

Каля тарпеды круціўся хлопчык год васьмі, худзенькі, з вострым носікам, чырвоны кончык якога быў, напэўна, бліжэй да бязбровага ілба, чым да верхняй губы. На хлопчыку была вялікая, зусім не па галаве чорная пілотка з бліскучым якарам наперадзе, а на рукавах запэцканай курткі красаваліся адна над другой на-

шыўкі мінёра, сувязіста, артылерыста, камендора, электрыка і сігнальшчыка. Чырвоныя стрэлы, маланкі, якары, гаечныя ключы, гарматы, вымпелы... Нашывак было так многа, што яны ледзь змяшчаліся між плячом і патрапаным абшлагом, з якога вылязала худая брудная рука хлопчыка. Хлапчук уважліва аглядваў вывезеную тарпеду, абыходзіў яе з усіх бакоў, затым садзіўся перад ёй на кортачкі і, шморгаючы ад старання кірпатым носам, выводзіў нешта пальцам па змазцы, якая пакрывала тарпеду. Я падышоў бліжэй. Праз чырвонавата-карычневую пасту цьмяна блішчэў металам працёрты пальцам надпіс: «Ат Фэди». Касая перакладзінка літары «н» была нахілена не ў той бок, куды трэба, літара таму была падобна на знак нумара: «№», і я здагадаўся, што «э» атрымалася ў хлопчыка таксама выпадкова.

— Ну, Федзя,—запытаў я,—чым гэта ты, брат, займаешся?

— Распісваюся, — адказаў Федзя, спадылба зірнуўшы на мяне і падпраўляючы пальцам зроблены ім надпіс.

— Гэта навошта-ж?

— Няхай ведаюць ад каго, — злосна вымавіў хлопчык.—Яны ўжо мой почарк ведаюць. Я кожны раз распісваюся.

— А хто-ж ты такі будзеш?

— Я?—як быццам здзівіўшыся, запытаўся хлопчык і, яшчэ вышэй падцягнуўшы нос, зірнуў на мяне знізу без усякага адабрэння. — Я тут адзіны ў іх хлопчык...

— У каго ў іх? Чый адзіны?

— Ну, ва ўсіх... Флоцкі. Я адсюль, з падплава. Не ведаеце, ці што?—і ён адышоў ад мяне да другой тарпеды, якую ў гэты час выкатвалі на цялежцы з-пад скалы.

Адзін з чырвонафлотцаў-падводнікаў, падхапіўшы вольнай рукой Федзю пад пахі, не спыняючыся, пасадзіў яго вярхом на тарпеду, і так ён праехаў міма мяне,

шчыльна абхапіўшы нагамі круглае і тоўстае цела вялізнага смертаноснага снарада.

—Расступіся, народ, цар Фёдар на кані едзе!—крыкнуў з мосціка падлодкі, вылязаючы з люка, чалавек у прасмаленай форменцы, напэўна механік. — Ну, як, Федзя, прыклаў руку?

— Парадак,—адказаў Федзя.

— Гэта што, сынок каго-небудзь з вашых?—запытаўся я ў чырвонафлотца, які назваў Федзю царом Фёдарам.

Ды не, тут цэлая такая гісторыя,—адказваў у поўголаса падводнік.—Гэта Федзюшка Таўбеін. Наш, з падплава. У яго бацька, боцманам быў, з пamораў, на восемнаццатым нумары, на буксіры. А калі ў мінулым годзе сем'і эвакуіравалі адсюль морам, немцы-гады ў моры іх застукалі. Наляцела штук пяць і давай дзяўбсці. Там жанчыны, дзеці—страшэнная справа! Проста з брэючага. Бачылі, вядома, што народ не ваенны, а так і не адчапіліся, пакуль не дакончылі. Пакуль з берага падаспелі, ужо мала хто на вадзе трымаўся. І бацька яго, і маці Федзі гэтага, і сястрычка таксама была—усе загінулі. А яму пашанцавала: буек якарны бомбай адхапіла, ён за яго і ўчапіўся. Адзіны, хто выратаваўся. Ну, даставілі яго на базу. А тут яго Дуся забрала, што ў кают-кампаніі падае, ведаеце, афіцыянтка? Так ён тут і застаўся, на падплаве ў нас. Адзіны ў сваім родзе, так сказаць. У нас-жа тут ні ў заліве, ні ў адной губе дзяцей не знойдзеш, усіх эвакуіравалі, як вайна пачалася. Ну, а ўжо Федзька, так атрымалася, асеў, відаць, надоўга. Ды і нам, ведаеце, усё-ткі, весялей пазіраць, а то забыліся ўжо, якія рэбяты бываюць. Ён-жа адзіны...

Так я даведаўся пра гісторыю Федзі Таўбеіна, агульнага сына падводнікаў, выхаванца і любімца паўночнаморцаў. Яго вельмі песцілі на падплаве. Выдатныя падводнікі, героі Совецкага Саюза, сам праслаўлены Звёздзін, імклівы Сухаркоў, неўгамонны Фалькоўскі падарылі яму сваю дружбу. І калі лодка ішла на баявую апе-

рацыю, Федзька заўсёды праводзіў сваіх сяброў, стоячы на пірсе, і доўга пазіраў услед.

У маракоў Паўночнага флота ёсць звычай рабіць надпісы на змазцы тарпед. «Гітлеру пад мікітку», пісалі падводнікі на тарпедах. «Фашысцкім гадам ад паўночнаморцаў», выводзілі яны на грозных сваіх снарадах, зараджаючы тарпедныя апараты. «За Кіеў, за Севастопаль...» Неяк Федзя напрасіўся, каб і яму дазволілі зрабіць надпіс. Ён ведаў некалькі літар і вывеў на тарпедзе сваё імя. І вышла так, што Герой Совецкага Саюза Ісак Аркадзьевіч Фалькоўскі гэтай самай тарпедай, якую надпісаў Федзька, затапіў вялікі нямецкі параход. Фалькоўскі ішоў на маленькай лодцы—іх на флоце называюць «малюткамі». Варожыя мінаносцы вартавалі карабль з каштоўным грузам. Але «малютка» смела праскочыла пад караблямі аховы, і тарпеда з надпісам «Ат Фэди» трапіла прама ў фашысцкі параход. Ён узарваўся, зарыўся носам у ваду і хутка пайшоў на дно. З таго часу пайшло ў моду браць у паход тарпеды з Федзіным надпісам. Маракі жартаўліва сцвярджалі, што ў Федзі лёгкая рука і ён прыносіць шчасце падводнікам.

Федзька цэлыя дні прападаў на падплаве. Ён гуляў у класы, малюючы іх мелам на таўстых дошках пірса, і калі хто-небудзь неасцярожна ступаў у клетку, Федзька сярдзіта крычаў:

— Ну, дзе ходзіш! Не бачыш—тут замініравана! Абазначана ясна.

Фалькоўскі падарыў яму пакінуты кімсьці з эвакуіраваных трохколавы веласіпед. Па ўзросту Федзьку трэба было-б ужо ездзіць і на двухколавым. Але лішняя спіца ў калясніцы мала турбавала Федзьку. І, каб не закрануць руля, шырока расставіўшы калені ў дзіравых панчохах, Федзька раз'язджаў на сваім трохколавым веласіпедзе па пірсу, лавіруючы між кнехтамі[1] для прычала, тарпедамі, бочкамі. Адпойчы ён наваг умудрыўся

[1] Кнехт—металічная або драўляная тумба, на якую накідваюць пятлю прычальнага троса-каната.

з'ехаць па крутому вузкаму трапу на крэйсерскую падводную лодку Звёздзіна, што стаяла ля сценкі. Але атрымаў за гэта такі наганяй, што потым два дні хадзіў пехатою, баючыся паказацца на веласіпедзе падводнікам.

Ах ты, Фэдзя, Фэдзя!—казаў яму Фалькоўскі, з якім яны асабліва пасябравалі. — І што з цябе будзе, Фэдзя? Цёмна і незразумела! Калі ты сабе галаву нідзе не адарвеш, дык яна табе спатрэбіцца ў гаспадарцы, але ты яе адарвеш сабе.

Нехта падарыў Федзьку старую пілотку падводніка. Хоць яе і зашылі ззаду, усё-ж яна была вялікая Федзьку і адтапырвала яму вушы. Падводнікі, мінёры, электрыкі, сігнальшчыкі куплялі яму форменныя нарукаўныя нашыўкі ў Флотгандлі, і хутка Федзька стаў падобны на чамадан вандроўніка, упрыгожаны з усіх бакоў наклейкамі гасцініц.

Аднойчы прыехалі разведчыкі з рыбачага поўвострава, з далёкага мора на самым краі свету. Даўно яны не былі на Вялікай зямлі. Абступіўшы Федзьку, яны з вясёлым і замілаваным здзіўленнем аглядалі яго.

— Глядзі, нармальнае дзіця! Правільна! — сказаў адзін з іх, чалавек высокага росту. Праз расшпілены каўнер яго пяхотнай гімнасцёркі відаць была матроская цяльняшка.—Правільна! Жыццё, значыць, ідзе сваім курсам, пацаны на веласіпедах ездзяць. Парадак! Націскай, націскай, браток, качай педалі!

І ён падарыў Федзьку трафейны складаны ножык.

На другі дзень Фалькоўскі сустрэў Федзьку недалёка ад падплава. Федзька ішоў у госці да разведчыкаў, якія спыніліся ў доме ў начальніка порта. Убачыўшы свайго друга, Федзька хутка зашпіліў куртачку. Гэта здалося падазроным Фалькоўскаму.

— А ну, ну, што ты там хаваеш?

Федзька заўзята закашляўся.

— Прастыў учора, Ісак Аркадзьевіч.

— Прастыў? А ну, расшпіліся, давай сюды тваю прастуду, дай я цябе паслухаю.

— Ды так нічога не чуваць, Ісак Аркадзьевіч, а толькі вельмі горла скрабе і проста кашляеш — нават баліць.

— Ну, калі не чуваць, дык, можа быць, відаць штонебудзь, а? — настойваў Фалькоўскі. І, адвёўшы рукі Федзькі ўбок, расшпіліў куртачку.

— Гэта хто табе цяльняшку даў? Ды пачакай, гэта-ж у цябе проста на скуры? Ой, Фэдзя, Фэдзя! Я-ж праз цябе атрымаю разрыў сэрца раней часу.

— Не казычыцеся, у вас рукі халодныя, і так я ўвесь прастыў, — прабурчэў засаромлены Федзька, зашпільваючы куртачку, пад якой уся скура на грудзях была распісана хімічным алоўкам у сінюю палоску, каб людзям здавалася, быццам Федзька носіць матроскую цяльняшку.

Фалькоўскі абяцаў нікому не гаварыць аб гэтым здарэнні. Завёўшы Федзьку да сябе, ён ледзь гарачай вадой адмыў яго. І дружба вядомага падводніка з Федзькам пасля гэтага яшчэ больш умацавалася.

Хутка Фалькоўскі пайшоў у небяспечны паход на сваёй «малютцы». Федзька распісаўся на двух яго тарпедах. Праз некалькі дзён на базе былі атрыманы аб Фалькоўскім нядобрыя звесткі. Федзька падслухаў, як Звёздзін ціха гаварыў Сухаркову:

— Чуў, Валенцін? Немцы Фалькоўскага выявілі. Ён там кагосьці падкалоў, а цяпер яны за ім ганяюцца, глушаць яго.

— Можа, адляжыцца на дне, — ціха прамовіў Сухаркоў.

— А як-жа, адляжыцца, Ісака не ведаеш! Гэта-ж такая гарачка, абавязкова рызыкне. Ды і колькі можна яму адлежвацца? Ён ужо і так час пратэрмінаваў. Усё, напэўна, у яго да канца падышло.

— А што, значыць, небяспечна яму? — не вытрымаў і ўмяшаўся ў размову Федзька.

— Што небяспечна? Нічога не небяспечна! Пачуў звон — і ўжо «небяспечна». Садзіся, брат, лепш на свой трохколавы і катай сабе.

Але Федзька не сеў на веласіпед. Ён узабраўся на высокую прычальную тумбу і доўга сядзеў на ёй, пазіраў на бухту, у якой стаялі мінаносцы, вартавыя судны, кацеры-паляўнічыя. Усе былі тут, усе на месцы. Толькі Фалькоўскага не было, і пуставаў бон[1], у якім звычайна стаяла яго «малютка». Халодная зеленаватая вада плюскалася там між сваямі, быццам усхліпваючы. Непрыемнымі галасамі мяўкалі чайкі, бокам лётаючы па ветры. Федзька споўз з кнехта і, пахмура пазіраючы ў няўтульнае мора, пайшоў з базы, ведучы адной рукой свой веласіпедзік, педалі якога качаліся ўпустую, без карысці.

Вечарам Федзька адмовіўся ад пончыкаў, якія прынесла яму з салона камандзірскай кают-кампаніі Дуся. Ён потым расказваў мне, што доўга не мог заснуць, усё думаў пра Фалькоўскага. Жахліва, напэўна, калі вакол цябе вада і над галавой усё вада і вада. І побач рвуцца страшныя глыбінныя бомбы. Вось-вось трапіць, вось-вось скамечыць, расплюшчыць... Змарыўшыся, Федзька заснуў. Раніцой Федзьку зрабілася холадна і ад гэтага яму прыснілася, што ён ляжыць у халоднай вадзе на самым дне, і вушы ў яго сталі, як жабры, і ён дыхае імі, упускаючы ваду ў адно вуха і выпускаючы праз другое. А з верху раптам нырнула і пайшла, булькаючы, проста на яго глыбінная бомба, і вось як рване... Федзька прачнуўся ад гулкага ўдару за акном. За ім пачуўся другі. Федзька падхапіўся і ўбачыў лёгкі дымок, які яшчэ віўся ля гарматы на падводнай лодцы, якая, падняўшы пазыўныя[2], у гэту хвіліну шпарка заходзіла ў гавань. Федзька адразу пазнаў «малютку» Фалькоўскага — ніхто, апрача яго, не ўрываўся на такім ходзе ў вузкую гарлавіну заліва. А два залпы, якія даў, заходзячы ў гавань, Фалькоўскі, азначалі, што лодка вяртаецца з перамогай: два фашысцкія караблі пушчаны на дно.

---

[1] Бон—плывучая агарожа, у якой стаяць судны.

[2] Пазыўныя карабля—спалучэнне сцягоў або літар, па якіх пазнаюць, а таксама выклікаюць гэты карабль.

Федзька выскачыў на набераЖную. Падводнікі беглі да пірса. Пераганяючы іх, крапаючы за локці, атрымліваючы адабральныя надзатыльнікі, з усіх сіл націскаючы на педалі, імчаўся Федзька да прычала на сваім веласіпедзіку. Ён ледзь не збіў з ног вялізнага марака Мілехіна, старшага кока сталовай падплава. Кок бег у белым каўпаку, у беласнежным фартуху. Аддуваючыся, ён бурчэў:

— Гэта-ж проста чыстае пакаранне! Не набярэшся на іх!

А падводнікі, якія пераганялі яго, крычалі:

— Плакалі твае парасяткі, Мілехін! Чуў? Фалькоўскі два залпы бабахнуў, значыць, смаж двух парасят. Правільна! Нічога не зробіш, ужо як водзіцца! Закон! Парадак!

Федзька падкаціў у той самы момант, калі з лодкі кінулі прычальныя канцы, і Фалькоўскі, жмурачы запухленыя, чырвоныя ад стомленасці вочы, саскочыў на дошкі прычала. Не, Федзька не кінуўся да свайго друга — Федзька ведаў марскія парадкі. Ён цярпліва стаяў убаку, радасна вылупіўшы вочы і не зводзячы іх з Фалькоўскага, які, прыклаўшы руку да шапкі, дакладваў контр-адміралу, начальніку падплава, аб скончанай аперацыі.

— Патоплены два варожыя транспарты. Адзін у восем тысяч тон, другі, мяркую, тысяч на шэсць, — рапартаваў Фалькоўскі. — Затым мяне атакавалі два мінаносцы. Усяго было скінута дзвесце восемдзесят дзве глыбінныя бомбы. Заданне выканана. Людзі здаровыя. Маюцца нязначныя пашкоджанні.

Тут толькі Федзька заўважыў страшэнныя сляды, якія засталіся на лодцы ад блізкіх разрываў глыбінных бомб. На жалезнай палубе ўсё было пагнута. А дзе-ні-дзе на абшыўцы нават распаўзліся і чарнелі швы.

Афіцыяльная частка сустрэчы скончылася. Здаволены контр-адмірал закурваў, не забыўшыся прапанаваць папяросу герою, і пытанні, якія задаваў цяпер начальнік, пераходзілі ўжо ў звычайную сяброўскую размову.

Звёздзін і Сухаркоў па чарзе абнімалі Фалькоўскага і, здаволеныя, пахлопвалі яго па скуранай спіне.

— Колькі-ж усяго тарпед выпусцілі? — запытаўся контр-адмірал.

— Усяго толькі тры, таварыш контр-адмірал. Дзве з насавых, адну з кармы. Трапілі ў цэль кармавая і адна з насавых.

—Мае?—запытаўся з-пад нейчага локця, прабраўшыся ўперад, Федзька.

— Дакладна! — засмяяўся Фалькоўскі. — Абедзве «Ат Фэди».

Дні праз два пасля гэтага на базу наляцелі нямецкія бамбардыроўшчыкі. Караблі паднялі на мачтах клятчаты, жоўты ў шашках сцяг «цвёрда». Гэта быў сігнал трывогі. У порце каротка правыла сірэна. Усе кінуліся на свае месцы. Ударылі зеніткі з мінаносцаў, вартавых караблёў, білі гарматы з падлодак. Кацеры і буксіры, хутка адыходзячы па правілах трывогі ад сценкі, выпячваючы да сярэдзіны заліва, таксама білі на ўсім ходу па самалётах з буйнакаліберных кулямётаў і аўтаматычных гармат. Ударыў з свайго галоўнага калібра мінаносец «Громакіпячы». Рэха стрэлаў раскацілася па заліву, аддаючыся ў скалах. У дамах на набярэжных пасыпалася шкло, якое лопалася ад вялізнай сілы гуку. Другі раз ударыў з галоўнага калібра «Громакіпячы», і перадавы нямецкі бамбардыроўшчык, цягнучы за сабою хвост дыму, павярнуў убок, выкінуў доўгае полымя, хіснуўся, нязграбна круцячыся пачаў падаць за бліжэйшую сопку. Крыху ў баку ад яго выхлапнула і распусцілася ў небе белая кветка парашута. Яна павольна апусцілася і знікла за скаламі.

— Ля Тойва-губы сеў, — сказаў Звёздзін, які разам з намі назіраў за паветраным боем. — Як-бы не ўцёк фрыц, яго потым у сопках не знойдзеш. А да фронта тут рукой падаць, шукай-свішчы.

— Хвілінку! — сказаў раптам Фалькоўскі. А дзе наш Федзька? Дзе Федзька, я пытаюся? Ён-жа там, якраз ля Тойва-губы, ягады збірае, каб яму...

Сапраўды, Федзька цяпер па поўдня прападаў на сопках, дзе ў гэтым годзе было вельмі шмат чарнікі, галубікі, бруснікі і марошкі. Ён прыходзіў з фіялетавымі губамі, сінезубы і паказваў нам такі язык, быццам ён ім толькі-што вылізваў чарніла.

—Федзька там, вы разумееце або не разумееце!—закрычаў на нас Фалькоўскі.

І мы пачалі карабкацца на сопку, каб хутчэй дабрацца да Тойва-губы, каб злавіць нямецкага парашутыста, каб абараніць нашага Федзьку. Чырвонафлотцы акружылі раён, куды вецер аднёс парашутыста. Мы шлі, скачучы з скалы на скалу, аглядаючы шчыліны, абыходзячы невялікія азёры, заглядваючы пад кожны валун. Нідзе не было парашутыста, разам з ім знік і наш Федзька. Больш за ўсіх хваляваўся Фалькоўскі. Ён лічыў Федзьку ўжо загінуўшым, слаў праклянцці на галовы фашыстаў. Спакойны, разважлівы Звёздзін дарэмна намагаўся супакоіць яго.

На пошукі парашутыста вылецеў з аэрадрома лётчык Свістнёў. Ён кружыўся над сопкамі, некалькі разоў нізка прайшоў над намі, разглядаючы мясцовасць. Раптам самалёт крута павярнуў назад і пачаў апісваць кругі над невялікай цяснінай між двума высокімі скалістымі ўцёсамі. Лётчык, высунуўшыся з кабіны, махаў нам рукой, паказваючы кудысьці ўніз. Зрываючыся з каменняў, пераскокваючы праз ручаі, паімчаліся мы туды. Праз хвіліну мы былі на краю скалы. І там, унізе, на цёмным сырым моху, мы ўбачылі выкладзенае з белых каменняў вялізнае «Фэдя», якое ярка выдзялялася. Бядак! Ён, напэўна, вельмі хваляваўся і спяшаў, выкладваючы тут з каменняў сваё імя, і нават літару «я», якую звычайна пісаў правільна, тут павярнуў у другі бок. І тут-жа мы ўбачылі самога Федзьку: ён сядзеў, схаваўшыся пад навіслай скалой. Убачыўшы нас, ён пачаў рабіць нам нейкія знакі, прыкладваючы палец да губ, хлопаючы сябе па роце, патрабуючы маўчання і таямніча паказваючы кудысьці ўбок. Мы саскочылі да яго ўніз.

— Ён там, там, — шаптаў нам Федзька фіялетавымі ад чарнікі і дрыжачымі ад хваляваиня губамі. — Вунь, за тым каменем... У яго нага звіхнулася. Я бачыў, як яго збілі, пабег за ім, а ён у мяне як пульне з «шмайсера» свайго — думаеш, не страшна? Я і схаваўся тут. Потым хацеў было вылезці, да падплава дабегчы, — што-ж, не да вечара сядзець вартаваць, — а ён зноў як жахне ў мяне — думаеш, машо? Куля так і чыркнула, аж камень брызгануў... Я бачу, самалёт ляціць, пошукі робіць, а мне падняцца фрыц не дае, ну я і выклаў расціску сваю. Поўзаў-поўзаў, увесь жывот сабе працёр, каленкі прадраў,—думаеш, не баліць? Так і сабраў каменні і выклаў. Лётчык адразу зверху мой почарк пазнаў. А фрыц гэты вунь туды запоўз.

Чырвонафлотцы кінуліся да скалы і выцягнулі са шчыліны немца. Ён адразу кінуў свой аўтамат «шмайсер», убачыўшы, што яго акружылі з усіх бакоў маракі.

Выпадак гэты зрабіў Федзьку зусім вядомым на базе. Амерыканцы з нядаўна прышоўшага транспарта, гуляючы па набярэжнай, убачыўшы Федзьку, падыходзілі да яго, хлопалі яго па плячы, краталі яго шматлікія нашыўкі і гаварылі, што Федзька «о-кі-докі-бой», гэта значыць: «хлопец, як трэба».

Але вось скончылася кароткае палярнае лета, пачалі напаўзаць туманы, сонца астывала, рыхтуючыся ісці на зімовую спячку, і на падплаве аднойчы вечарам у каюткампаніі зайшла размова аб дальнейшым лёсе Федзькі.

— Балбесу ўжо за восем пераваліла, час-бы яму літары не толькі на тарпедах пісаць,—сказаў сурова Звёздзін.—У школу яго трэба накіраваць. Вайна вайной, а яму расці, вучыцца час.

— Дзіўнае пытанне, хіба я пярэчу? — гарачыўся Фалькоўскі. — Трэба, дык трэба... Вядома, хлопчык павінен вучыцца. Шкада, вядома, адпускаць, я кажу, мне шкада, не ведаю, як іншым.

— Ніхто не кажа, што не шкада, — прагаварыў, уздыхнуўшы, Звёздзін. — Я ўжо сваіх чатырнаццаць месяцаў не бачыў, Таксама шкада. — Ён памаўчаў кры-

ху. — Вучыцца дзеці павінны ў спакойным месцы, я, па крайняй меры, так лічу. Не ведаю, як іншыя.

Параіліся з Дусяй, «апякуншай» Федзькі, і вырашана было накіраваць яго ў тыл, у адзін з беламорскіх гарадоў, дзе быў інтэрнат для дзяцей маракоў. Я не ведаю, як удалося Фалькоўскаму ўгаварыць Федзьку. Ён і слухаць спачатку не хацеў аб ад'ездзе, але, відаць, павага да героя ўзяла верх, і Федзька згадзіўся.

Дваццаць шостага жніўня мы праводзілі Федзьку. Палярная восень падарыла Федзьку адзін з сваіх лепшых дзён. Паветра было такое празрыстае, што нават на вялікай адлегласці ўсё было відаць выразна, нібы высечанае з каменя. Вада ў бухце была люстрана-спакойнай, скалы ружовыя. Белыя чайкі кружыліся над намі, і слабы вецер ледзь варушыў прыгожыя сцягі Ваенна-Марскога Флота — белыя з сінім і чырвоным — і пярэстыя сігналы Асвода на караблях.

Колькі ўсякай яды нацягалі падводнікі Федзьку на дарогу! Колькі банак са згушчоным малаком, кансерваў, шакаладных кубікаў! Камандзір кацера, на якім Федзька «накіроўваўся ў навуку», ужо заявіў, што калі таварышы камандзіры будуць несці яшчэ прадукты, дык няхай яны тады закажуць спецыяльную баржу, а на кацеры ён базара разводзіць не можа.

Потым усе развітваліся з Федзькам. Ён быў пануры і здаваўся пахудзеўшым у новай прасторнай куртцы, на якую перайшлі ўсе знакі з старой.

— Ну, глядзі ты ў нас там, Фёдар, — казаў яму Звёздзін. — Вучыцца дык вучыцца, а інакш брацца не варта. Хоць ты цяпер і адскочыў ад нашага берага, але народу сваю беражы, памятай, што ты Фёдар Таўбеін з падплава.

— А, далібог, якія тут размовы! — загаварыў Фалькоўскі, беручы Федзьку за абедзве шчакі.—Едзь, едзь, Федзька! Цярпець не магу гэтых расставанняў, толькі настрой псуеш сабе. Ну, рухай, рухай, Федзька, давай ходу! Вось табе яшчэ плітачка шакаладу.

І Фалькоўскі сунуў у руку Федзьку вялікую плітку.

На кацеры ўключылі матор, з-пад кармы кругамі пайшла вада і пена. На мачце ўзляцелі тры сцяжкі — пазыўныя. Пры выхадзе з гавані ля вартавога паста на высокай мачце паднялі залацісты сцяг «добра». Гэта быў знак згоды, дазвол на выхад з гавані. Маленькі буксір пачаў адцягваць убок сеці і боны загароды. Буксірчык быў падобен на дворніка, урачыста адчыняючага вароты для выезду гаспадара з двара. Ён адцягнуў загароду ўбок, і кацер, на якім стаяў Федзька Таўбеін, выхаванец падплава, адзін і апошні хлапчук ва ўсёй марской акрузе, пайшоў у адкрытае мора.

Моўчкі стаялі на пірсе вядомыя падводнікі, Героі Савецкага Саюза Звёздзін, Сухаркоў, Фалькоўскі. Доўга стаяў і я з імі, пазіраў услед кацеру, які ўнюсіў ад нас нашага Федзьку.

— Нічога не паробіш, Федзька павінен вучыцца, — сказаў Звёздзін.

— Што гаварыць, — адгукнуўся Фалькоўскі, устрапянуўшыся, але не адварачваючыся ад мора. — Вядома, Федзька павінен вучыцца, а мы павінны ваяваць. Усё-такі я заўтра на адной тарпедзе сваёй, як хочаце, а напішу... Толькі, як-бы гэта лепш напісаць? За будучае Федзькі, ці што? Разумееш? Або ў імя, ці што?.. А, і так зразумела! Проста напішу: «Каб Федзьку было добра», і няхай яму будзе добра!

Ля выхаду з гавані буксір паставіў на месца загароду. Кацер даўно ўжо знік за скаламі мыса, з мачты ля вартавога пункта спусцілі сцяг «добра», а мы ўсё стаялі на беразе і пазіралі ў мора — маракі, мужчыны, бацькі, даўно не бачыўшыя сваіх дзяцей.

Аднойчы на базу падлодак прыляцеў Герой Савецкага Саюза Павел Свістнёў, той самы, што дапамог нам адшукаць і выратаваць Федзьку, калі ён згубіўся ў сопках, сочачы за нямецкім парашутыстам.

Гідрасамалёт, вядомы пад іменем «Каталіна», сеў у бухце, ускапаў шэрую асеннюю ваду, хістануў крыллямі, на чарзе датыкнуўшыся паверхні мора левым і пра-

вым паплаўкамі, падобнымі на вялізныя канькі, заціх, пасля зноў зароў маторамі і заруліў да берага.

Дзень быў ветраны, у бухце гуляла буйная хваля. Два кацеры паімчаліся насустрач гідрасамалёту, зачалілі яго канцамі за канцы крылляў і ўрачыста, быццам пад ручкі, павялі вялікую машыну да набярэжнай. Потым пад лятаючую лодку падвялі спецыяльную цялежку, нацягнулі тросы, і гідрасамалёт вылез на сухазем'е. З яго капала. У хвасце круглага цёмназялёнага тулава адкрыўся люк, з'явіліся вялікія ногі ў цёплых пушыстых унтах, і Свістнёў саскочыў на зямлю. Яго сустракалі падводнікі і лётчыкі, з нецярплівасцю чакаўшыя прыбыцця «Каталіны». Гідрасамалёт павінен быў дастаўіць запасныя дэталі для знішчальнікаў.

Зараз-жа прыступілі да разгрузкі. Поўгадзіны выцягвалі з вялізнай машыны прапелеры, акругленыя плоскасці, часткі матораў, гнянцавітыя рулі, элероны і скрынкі з надпісамі «верх» і «ніз», «асцярожна,не стукаць».

Потым з люку пад хвастом паказаліся маленькія ногі, якія ніяк не маглі дастаць да зямлі.

— З'ява апошняя, — сказаў Свістнёў. — Тыя-ж і ён.

У тую-ж хвіліну з люка выпаў на зямлю хлапец год васьмі, худзенькі, вастраносы, бязбровы, у вялікай пілотцы, якая збілася на лоб.

— Федзька, — ускрыкнуў Фалькоўскі, — чэснае слова, Федзька! Як вам гэта падабаецца?

Свістнёў, вельмі задаволены эфектам, які зрабіў яго маленькі пасажыр, весела агляддаў нас.

— Бачылі, каго даставіў вам?

— І бачыць не хачу, — прабурчэў Звёздзін і пахмура адвярнуўся.

Федзька падняўся з зямлі, збіў пыл з кален, абцягнуў рукавы курткі з бясконцымі нашыўкамі мінёра, сувязіста, артылерыста, камендора, электрыка, баталёра, сігнальшчыка.

— Добры дзень!.. Гэта я.

— Бачу, што ты, — сказаў Фалькоўскі.

Яны мяне з сабой захапілі, — казаў далей Федзька, матнуўшы галавою ў бок Свістнёва. — Я папрасіўся, яны і ўзялі.

— Ах, Федзя, Федзя! — і Фалькоўскі, адышоўшы ўбок, махнуў рукой.

—А ты таксама добры!—ціха прабурчэў Звёздзін, пазіраючы на Свістнёва. — Ну, для чаго ты яго прыцягнуў? Мы хлопца вучыцца паслалі, а ты...

— Якое там вучыцца... Ты зірні сам, проста змарнеў малы, сумуе па мору. Ён ужо два разы з інтэрната ўцякаў, ледзь адшукалі яго. А тут якраз я прыляцеў. Дэталі браў, запчасткі. Ну, і бачу, мучыцца хлопец. Шкада мне яго стала, ды і вы тут, ведаю, усе сумуеце па ім, па чарцёнку. Правільна-ж?

—Ну-ну, нас хоць не шкадуй, калі ласка. Аднаго пашкадаваў — і хопіць. Нешта вельмі жаласлівы ты стаў.

Звёздзін сярдзіта зірнуў на Федзьку, крута павярнуўся і закрочыў да выхаду з базы. Федзька разгублена паглядваў на нас: напэўна, ён не чакаў такой сустрэчы. Фалькоўскі ўсё-ж падышоў да яго.

— Эх ты, веліка Фядора! — сказаў ён. — Эх ты, цар Фёдар! І што мне з табой рабіць, цёмна і незразумела... Ну, ідзі пакуль да Дусі, а там разбярэмся, не было ў бабы турбот, дык купіла парасё.

Усе мы вельмі сумавалі па Федзьку. Часта па вечарах у кают-кампаніі падплава камандзіры ўспаміналі нашага выхаванца: «Як там Федзька наш рухае навуку? Вось заўтра ідзем у мора, трэба-б яму да тарпеды руку прыкласці»... Але цяпер нечаканы зварот Федзькі ўсіх усхваляваў. Мы разлічвалі, што Федзька прыедзе як належыць, як патрабуецца, на канікулы, і падводнікі будуць хваліцца яго школьнымі поспехамі, а ён проста ўцёк.

На другі дзень Федзька, як бывала, з'явіўся на базу, але яго затрымаў ля ўваходу вартавы.

— Стой, ты куды?

— На падплаў. Не бачыш?

— Бачыць дык добра бачу, а пропуск у цябе ёсць?

— Дзядзя, вы-ж мяне ведаеце, я Федзька. Я тут, а падплаву. Вы што, не прызналі? Гэта-ж я.

Вартавы зірнуў на Федзьку, як быццам бачыў яго ў першы раз.

— Нешта не прызнаю. Быў тут, праўда, адзін хлопчык, Федзем звалі. Такі спраўны, дысцыпліну разумеў, да службы марской павагу меў. Ды таго хлапца ў навуку адкамандзіравалі. Таго ведаю,таго і так прапушчу, без дакумента. А цябе, такога, які, значыць, самавольнічае, такога першы раз бачу ў нас на падплаве.

Збянтэжаны Федзька адышоў ад варот базы, пахадзіў крыху каля мора, сумнага, асенняга, потым зноў вярнуўся да вартавога.

— Дзядзенька, вы мяне толькі прапусціце. Мяне Фалькоўскі ведае і Звёздзін, усе!

— Не было такога загаду пускаць цябе.

На Федзькіна шчасце прышоў Фалькоўскі.

— Скажыце — я з вамі, — зашаптаў Федзька свайму любімаму камандзіру.

— Добра, — сказаў Фалькоўскі вартавому, — прапусціце. Са мной.

І Федзька зноў апынуўся на знаёмым дворыку падплава. Усё тут было, як раней. Чырвонафлотцы везлі на цялежках тарпеды. Але калі Федзька па старой прывычцы падышоў да аднаго з снарадаў, высокі чырвонафлоцец, які звычайна любіў вазіць Федзьку вярхом на тарпедзе, пахмура глянуў на яго і прыкрыкнуў:

— А ну, рукі прымі, не чапай тарпеды!

— Я-ж толькі распісацца.

— Без тваёй распіскі справа абыйдзецца, — сказаў чырвонафлоцец. — Ты спачатку навучыся, як пісаць, бо ў цябе літары на карачках ходзяць, над тваімі літарамі фашысты смяяцца будуць. Што гэта, моў, у іх там за непісьменныя на падплаве, карову з мяккім знакам пішуць? Ты-б вось спачатку навучыўся ў школе, а пасля ўжо і распісваўся. А пакуль што не дазволена цябе да гэтай справы пускаць. Тут вайна ідзе, сур'ёзная раз-

мова. А ну, ідзі, не блытайся тут. Бачыш, людзі справаю заняты, чаго стаў?

А таўсты механік, які ў гэты час вылез з люка крэйсерскай лодкі Звёздзіна, засмяяўся ў свой замаслены кулак і крыкнуў гучна здалёк так, што чулі ўсе, хто быў на базе:

— А, дэзертыр з'явіўся! Сам, сваёй персонай! Хто-ж гэта яго сюды пусціў?

Увесь дзень акалачваўся без справы Федзька на базе падплава. З ім ніхто не загаварыў, ніхто не прапанаваў распісацца на тарпедах, якія грузілі на лодкі, ніхто не спыніў яго, каб распытаць, як яму жылося ў інтэрнаце,- там, у беламорскім горадзе. Яго быццам не заўважалі. Толькі іншы раз, калі ён ціха, з захаванай, яшчэ жывўшай у ім надзеяй, набліжаўся да трапаў, перакінутых з пірса на падлодку, гучэў чый-небудзь голас:

— Эй, хлопчык, адыйдзі ад краю, не хадзі тут!

Разгублены, няшчасны хадзіў Федзька па беразе падплава і заглядваў у вокны кают-кампаніі. Але і там тоўсты кок падплава Мілехін, які звычайна частаваў Федзьку пончыкамі, непрыветліва сказаў:

— Ты-б, друг Фёдар, пайшоў куды-небудзь ды справай заняўся, а што тут, хадзіць без толку, няма чаго тут праядацца!—Ён уважліва агледзеў Федзьку, выцер руку аб фартух і дадаў: — Нядобрае тваё становішча, Федзя! Спачуваю, але дапамагчы не маю права. Дэзертыраў на харчаванне не бярэм.

Федзька ўсё чакаў, можа быць хоць паветраная трывога будзе і ён пакажа зноў, як нічога не баіцца. А раптам, на шчасце, яшчэ парашутыста скінуць, і ён зноў яго агледзіць, і ўсе зноў прызнаюць, што Федзька герой. Але дзень быў пахмурны, вецер рваў пену з цяжкіх хваляў, на нізкім шэрым небе не з'яўлялася ніводнага самалёта.

У бухце было пуста: мінаносцы пайшлі вартаваць вялікі караван, які плыў да нас з Амерыкі. І ў гэтым пахмурным асеннім дні ніхто не жадаў выдзеліць ні адной хвіліны Федзьку, і не было бегляцу месца ў строгім

свеце, занятым сваімі ваеннымі звычайнымі справамі.

Нарэшце, ён убачыў, што з штаба вышаў Фалькоўскі. Ён кінуўся насустрач камандзіру.

— Ісак Аркадзьевіч, а што яны мне кажуць, што я гэты, як яго... дэзертыр?

— А хто-ж ты яшчэ? — спакойна адказаў Фалькоўскі. — Вядома дэзертыр.

— Гэта як дэзертыр?

— А вельмі проста. Дэзертыр — гэта хто драпу дае з фронта, сваіх таварышоў кідае, баіцца, шукае месца, дзе-б лягчэй. Так і гаворыцца: трус і дэзертыр. Іменна.

— Дык я-ж зусім наадварот! Сам на вайну прыехаў. Тут і бамбіць могуць, а я не баюся нічога. Чаго-ж яны гавораць — дэзертыр, дэзертыр...

— Як вам падабаецца, ён яшчэ разважае! Твая справа што: тут быць або ў класе? Я цябе пытаюся. У класе твая справа сядзець! Цябе Паўночны флот вучыцца паслаў, а ты адлыньваеш, ты ўцёк. Весь цябе нашы правільна дэзертырам і завуць. Скажаш, не? Няправільна хіба? А гэта ты, калі ласка, мне не залівай — фронт тут або не фронт. Мы тут на фронце, а ты там сваю вахту кінуў.

— Мне там сумна. Я без вас не магу. Я ўжо прывык. Я... эх, і сумаваў...я зусім... — І Федзька заплакаў.

Ніхто ніколі не бачыў, каб Федзька плакаў. А тут ён так і заліўся. Фалькоўскі доўга і старанна адкашліваўся, паправіў кепку, пахадзіў вакол Федзькі, потым абхапіў далонню галаву яго і прыціснуў да свайго бока.

— Кха, гм, гм... Ну, хопіць раўці, слухай. Плакаць тут ужо зусім не трэба. Сумаваў? Я, думаеш, не сумаваў? І ў мяне, можа, таксама на Урале сынок накшталт цябе... Дзіўная справа, вядома, сумаваў. А калі я ў моры — думаеш, не сумна мне іншы раз? А цярплю. Не прашуся на бераг. Ну, хопіць табе сапці, хопіць! Ну, каму кажу!

— Я... я не дэзертыр... Я хацеў... да вас толькі...

— Нельга, Федзя, дарагі, вучыцца табе трэба. І наогул, калі ласка, не хвалюй мяне... Ах, Федзя, Федзя!..

Падышоў Звёздзін.

— Ну, што, дагаварыліся? — запытаўся ён.

— Ясна, дагаварыліся! Хто гэта сказаў, што Федзька дэзертыр? Язык вырву таму, хто гэта скажа. Ён проста крыху засумаваў і выпадкова трапіў на самалёт, і Свістнёў яго выпадкова захапіў, а цяпер ён выпадкова зароў.

— Вось і добра! — прабасіў Звёздзін. — А каб ён выпадкова яшчэ чаго-небудзь не зрабіў, мы яго сёння ноччу накіруем назад. Правільна?

— Правільна, — ціха адгукнуўся Федзька.

— Гэта ты таксама выпадкова гаворыш?

— Не, хачу.

— То-та. І пісьмо напішаш дырэктару школы: так, моў, і так, выпадкова захапілі хлопца. Добра, Фёдар?

— Добра...

— Ах ты, Федзя, з'еў мядзведзя, а назад не выплюне!—сказаў добрадушна Звёздзін.

І на світанні мы зноў праводзілі Федзьку. На гэты раз ён ад'язджаў ужо без усякіх урачыстых провадаў. Мы давезлі яго на кацеры да гідрасамалёта. Крыху збянтэжаны, Свістнёў падхапіў Федзьку на рукі і ўцягнуў у машыну. І тут, не пазіраючы адзін на другога, Фалькоўскі і Звёздзін пачалі непрыкметна класці Федзьку ў рукі і цішком засоўваць у яго кішэні кансервы, пячэнне, пліткі шакалада.

— Выпадкова захапіў, — вінавата сказаў Фалькоўскі.

— Ды і ў мяне таксама выпадкова аказалася, — усміхнуўся Звёздзін.

Кацер наш адышоў убок. На «Каталіне» зараўлі маторы, і вялізны самалёт, хістаючыся, датыкаючыся ціхай ранішняй вады паплаўкамі — левым, правым, левым, правым, — як канькабежац, разбегся па люстраной паверхні бухты і мякка пайшоў у неба.

Ну, вось і ўсё. Так мы накіравалі зноў Федзьку ў навуку і самі, вельмі засмучоныя, вярнуліся на базу.

Нядаўна я атрымаў пісьмо ад Фалькоўскага. Вось што ён мне піша пра Федзю:

«Хачу паведаміць табе прыемную навіну пра нашага Федзьку. Свістнёў прыляцеў сёння і прывёз Федзькіна пісьмо. Разумееш, ён цяпер ужо ведае столькі літар, што можа пісаць цэлыя пісьмы. Федзька не падкачаў, не асароміў наш падплаў. Пачаў вучыцца на «выдатна» і просіць, каб яго прывезлі да нас зімой на канікулы. Абавязкова прывязем. І зробім яму ёлку. А сёння я іду ў паход. І на двух карманных тарпедах ведаеш, што я напісаў? Па руску — «добра», па арыфметыцы — «выдатна». Гэта Федзькіны адзнакі. З такімі адзнакамі не прамахнешся. Буду і я дзейнічаць, як наш Федзька: на «выдатна», па-руску!

# АЛЯКСЕЙ АНДРЭЕВІЧ

У Аляксея Андрэевіча, напэўна, тугія цёмныя вусы, голас густы, плечы шырокія, выгляд сур'ёзны... Так думаў камандзір ваеннай часці, якая размясцілася на беразе ракі Н. Камандзір ніколі не бачыў у вочы Аляксея Андрэевіча, але чуў аб ім кожны дзень. Тыдзень назад байцы, вяртаючыся з разведкі, паведамілі, што ў лясочку іх сустрэў босы хлапец, вывярнуў з кішэні сем белых каменьчыкаў, пяць чорных, потым выцягнуў вяроўку, завязаную чатырма вузялкамі, а нарэшце вытрас тры шчэпачкі. І, паказваючы на вынутае з кішэняў дабро, невядомы хлапец паведаміў шэптам, што на тым беразе ракі заўважана сем мінамётаў нямецкіх, пяць танкаў ворага, чатыры гарматы і тры кулямёты. На пытанне, адкуль ён узяўся, хлапец адказаў, што яго прыслаў сам Аляксей Андрэевіч.

Прышоў ён да разведчыкаў і на другі дзень і на трэці. І кожны раз доўга капаўся ў кішэнях, выцягваючы рознакаляровыя каменьчыкі, шчэпачкі, лічыў вузлы на вяроўцы і казаў, што яго прыслаў Аляксей Андрэевіч. Хто такі Аляксей Андрэевіч хлапец не сказаў, як яго не распытвалі. «Час ваенны—гаварыць многа нельга,— растлумачыў ён,—ды і сам Аляксей Андрэевіч не загадваў нічога гаварыць аб ім». І камандзір, штодзённа атрымліваючы вельмі важныя звесткі ў лесе, вырашыў, што Аляксей Андрэевіч — гэта нейкі храбры зарэчны партызан, магутны волат з тугімі вусамі і нізкім голасам. Іменна такім чамусьці здаваўся камандзіру Аляксей Андрэевіч.

Аднойчы вечарам, калі з шырокай ракі пацягнула цяплом і вада зрабілася зусім гладкай, нібы застыўшай, камандзір праверыў пасты ахавання і збіраўся павячэраць. Але тут яму сказалі, што да вартавых заставы прышоў нейкі хлопчык і просіцца да камандзіра. Камандзір дазволіў прапусціць хлопчыка.

Праз некалькі хвілін ён убачыў перад сабой невысокага хлопчыка, год трынаццаці-чатырнаццаці. Нічога асаблівага ў ім не было. Хлопчык з выгляду здаваўся праставатым і нават крыху няўцямлівым. Ён ішоў размашыстай паходкай, і вельмі кароткія штаніны матляліся з боку ў бок над яго босымі ступнямі. Але камандзіру здалося, што хлопчык толькі прыкідваецца такім прастачком. Камандзір адчуў нейкую хітрасць. І сапраўды, як толькі хлапец убачыў камандзіра, ён адразу падцягнуўся ўвесь, зрабіў чатыры ўпэўненыя крокі, застыў, аддаў піянерскі салют, чотка сказаў:

— Дазвольце далажыць, таварыш камандзір? Аляксей Андрэевіч...

— Ты?!—не паверыў камандзір.

— Я самы. Загадчык пераправы.

— Чаго? Чаго загадчык?—перапытаў камандзір.

— Пераправы!—данеслася з-за куста, і з-за лісцяў азказаўся хлопчык год дзевяці.

— А ты хто такі?—запытаўся камандзір.

Хлопчык вылез з куста, выцягнуўся і, пазіраючы то на камандзіра, то на свайго старэйшага таварыша, старанна вымавіў:

— Я — для асобых даручэнняў.

Той, што назваўся Аляксеем Андрэевічам, грозна накасіўся на яго.

— Для даручэнняў,—паправіў ён малога,—сто разоў сказана! І не лезь пакуль старэйшы гаворыць. Зноў вас вучыць трэба?

Камандзір схаваў усмешку і ўважліва агледзеў абодвух. І старэйшы і малодшы стаялі перад ім навыцяжку.

— Гэта Валёк, даручэнец мой,—растлумачыў першы,—а я загадчык пераправы.

У маленькага «даручэнца» ад хвалявання ўвесь час варушыліся пальцы босых запыленых ног, акуратна ссунутых пяткамі разам.

— Загадчык? Пераправай? — здзівіўся камандзір.

— Так.

— Дзе-ж гэта твая пераправа?

— У пэўным месцы,—сказаў хлапец і зірнуў на маленькага, той толькі носам шмаргнуў: разумееш, моў, не бойся.

— А ты адкуль з'явіўся?

— З пасёлка. Вунь там, за лесам.

— А па прозвішчу як цябе?—дапытваўся камандзір.

— А па прозвішчу — я потым толькі вам скажу, бо можа сям'і маёй шкода атрымацца. Немцы дазнаюцца— помсціць за мяне пачнуць.

— За што-ж немцы табе помсціць будуць?

— Як за што?—Хлапчук нават пакрыўдзіўся.

Валёк не ўтрымаўся і хмыкнуў; старэйшы строга зірнуў на яго.

— Як за што? За пераправу.

Ды што гэта за пераправа такая?—раззлаваўся камандзір.—Круціць тут мне галаву: пераправа, пераправа... а нічога толкам не растлумачыць.

— Можна стаяць вольна?—запытаўся хлопчык.

—Ды стой вольна, стой як хочаш, толькі скажы толкам: чаго табе ад мяне трэба?

Дзеці сталі «вольна». Маленькі пры гэтым старанна адставіў убок нагу і смешна вывернуў пятку.

— Звычайная пераправа,—павольна пачаў старэйшы.—Ёсць значыць, плыт. Пад назвай «Гроб фашыстам». Самі звязалі. Нас цэлых восем чалавек, а я загадчык. І мы з таго берага, дзе немцы, трох раненых нашых на гэты бок пераправілі. Яны вось там, у лесе. Мы іх там прыкрылі, маскіроўку зрабілі. Толькі далей іх цягнуць цяжка. Вось мы да вас і прыбылі. Іх трэба ў пасёлак аднесці, раненых.

— Што-ж, немцы вас не заўважылі? Як-жа вы ў іх пад носам на сваім порце падарожнічаеце?

— А мы ўсё пад беражком, пад беражком, а потым там у нас корч ёсць, мы ад яго ўжо на той бераг пераплываем. Тут у рэчцы звіліна. Вось і не відаць нас. Яны заўважылі было, страляць пачалі, а мы ўжо да месца назначэння прыбылі.

— Ну, калі праўду гаворыш, малайчына, Андрэй Аляксеевіч!—сказаў камандзір.

— Аляксей Андрэевіч, — ціха паправіў хлопчык, скромна пазіраючы ўбок.

Праз поўгадзіны Аляксей Андрэевіч і яго «даручэнец» Валёк прывялі камандзіра і санітараў да раненых, якія былі схаваны ў лесе, там, дзе рака рабіла глыбокую прамоіну ў беразе і тоўстыя карэнні дрэў пераплятаціся, як шалаш.

— Вось тут!—паказаў Аляксей Андрэевіч.

З-пад карэнняў выскачылі, карабкаючыся па беразе, чацвёра рэбят.

— Смірна!—скамандаваў Аляксей Андрэевіч і павярнуўся да камандзіра:—каманда піонерскай пераправы ў зборы. Раненыя якраз тут, ля судна выстаўлена ахова, пераправа да выканання баявых заданняў гатова.

—Добры дзень, таварышы!—паздароўкаўся камандзір.

Рэбяты дружна адказалі; толькі з-за дрэва, якое навісла над берагам, з некаторым спазненнем прагучэла: «Дзень добры». І Аляксей Андрэевіч растлумачыў, што гэта двое дзяжурных, якія ахоўваюць замаскіраваны плыт. Хутка трое цяжка раненых чырвонаармейцаў былі пакладзены санітарамі на насілкі. Двое з раненых байцоў былі ў забыцці і толькі зрэдку ціха стагналі; трэці, схапіўшы аслабеўшай рукой камандзіра за локаць, цяжка рухаючы губамі, усё намагаўся сказаць нешта. Але ў яго выходзіла толькі:

— Піонеры, бач... дзеці... вельмі ўдзячны... байцоў... піонеры. Прапалі-б... А яны вось...

Санітары аднеслі раненых у пасёлак, а камандзір запрасіў рэбят павячэраць да сябе. Але Аляксей Андрэевіч заявіў, што надыходзіць самы час для работы і ён адлучыцца не можа. На наступны дзень Аляксей Андрэевіч прынёс камандзіру паперку, на якой быў намалёваны план размяшчэння немцаў. Ён сам намаляваў яго, прабраўшыся на той бераг.

— А колькі ў іх кулямётаў і гармат не заўважыў?— запытаўся камандзір.

— Зараз атрымаеце ўсё ў дакладнасці, — адказаў Аляксей Андрэевіч і свіснуў.

У той-жа час з-за кустоў высунуўся доўгавязы хлопец у акулярах.

—Гэта пры нашым плыце рахункавод, Колька,— растлумачыў Аляксей Андрэевіч.

—Не рахункавод, а бухгалтар, — панура паправіў доўгавязы.

— Бухгалтар! Сто разоў сказана!—сказаў Аляксей Андрэевіч.

У «бухгалтара» аказаўся дакладны завязаны вузялкамі на вяроўцы, сабраны з каменьчыкаў і палачак спіс усіх кулямётаў і гармат, якія немцы паставілі на другім беразе.

— А як наконт браневікоў? Не бачылі?

— Гэта ўжо трэба ў Сярожкі запытацца, — адказаў Аляксей Андрэевіч.—Я наўмысна размеркаваў на ўсіх, каб у кожнага пакрыху было. А па каменьчыках ды па пачэпачках немцы не дазнаюцца. Гэта ў кожнага ў кішэні бывае. Калі хто і пападзецца, астатнія сваё даробяць. Эй, Сярожка! — крыкнуў ён, і ў той-жа час з-за кустоў вышаў нагола абстрыжаны і загарэлы хлапец: у яго быў дзесятак ракушак, якія абазначалі нямецкія браневікі і танкі.

— Можа, вам вінтоўкі патрэбны?—раптам сурова запытаўся Аляксей Андрэевіч.

Камандзір рассмяяўся:

—А вы што, не толькі плыты, але і вінтоўкі, выходзіць, робіце? Так, ці што?

— Не,—адказаў, не ўсміхаючыся, Аляксей Андрэевіч. — У нас гатовыя, нямецкага паходжання. Прысылайце вечарам за імі, да пераправы, у нуль гадзін пятнаццаць хвілін. Толькі каб дакладна.

Ва ўмоўлены час да месца пераправы прышоў сам камандзір. З ім было некалькі байцоў. Камандзір пачаў спускацца да вады і спатыкнуўся раптам аб нешта жалезнае і цяжкае. Ён нагнуўся і намацаў мокрую вінтоўку.

— Прымайце зброю,—зашаптаў Аляксей Андрэевіч.

Восемдзесят нямецкіх вінтовак перадалі піонеры плытагоны за гэтую ноч чырвонаармейцам. Аляксей Андрэевіч акуратна пералічыў іх, адзначыў у сябе ў запісной кніжачцы кожную і загадаў свайму «бухгалтару» атрымаць распіску ад камандзіра.

«Дана загадчыку пераправай Аляксею Андрэевічу ў тым, што мною атрымана восемдзесят нямецкіх вінтовак, захопленых піонерамі ў ворага. Выражаю ўсёй камандзе плыта «Гроб фашыстам» падзяку».І камандзір распісаўся.

— Як-жа гэта вы ўмудрыліся ўсё-такі?—запытаўся ён у рэбят.

— А яны там п'яныя. Вось мы падпаўзлі і сцягнулі. Вельмі проста. Тры разы туды плавалі. Адзін раз у ваду было ўпусцілі. Ныраць прышлося.

— Больш ніякіх прыгодаў не было,—раптам падаў голас Валёк.

Усе падумалі, што ён ужо заснуў, прысеўшы на пянёк.

— Ты ўжо маўчы: прыгодаў!.. Сто разоў сказана: прыгод.

— Ну, вы проста малайцы, рэбяты, — з захапленнем сказаў камандзір, — здорава працуеце. Гэтак вы, бадай, і пушку прыцягнуць можаце.

І пушку можам,—спакойна згадзіўся Аляксей Андрэевіч.

Аказалася, што на тым беразе ў балотнай ціне надысь загрузла нямецкая пушка. Рэбяты агледзелі гэта месца. Днём немцы спрабавалі выцягнуць пушку на бераг, на сухое месца, але ў іх нічога не атрымалася.

Камандзір паслаў сем байцоў у дапамогу рэбятам. Каманда Аляксея Андрэевіча заняла свае месцы на драўляным плыце. Рэбяты і байцы пачалі грэбсці рукамі, дошкамі і рыдлёўкамі. І плыт «Гроб фашыстам» ціха паплыў па начной рацэ.

Камандзір павінен быў вярнуцца да сваёй часці, але ён не мог заснуць. Некалькі разоў ён выходзіў на бераг, углядаўся ў цемру і прыслухоўваўся. Але нічога не было чуваць.

Пачынала світаць, калі раптам з таго берага данесліся беспарадкавыя стрэлы. Немцы заўважылі плыт і адкрылі агонь па ім. Але было позна. Камандзір убачыў, што плыт завярнуў за выступ берага, і кінуўся туды.

На досвітку ў размяшчэнне часці былі дастаўлены выцягнутыя з ціны, пакінутыя фашыстамі пушка і мінамёт.

— Васьмідзесяцідвухміліметровая пушка і саракапяціміліметровы мінамёт,—так сказаў, дакладваючы камандзіру, Аляксей Андрэевіч.

— І зусім наадварот,—вельмі здаволены памылкай свайго загадчыка паправіў Коля-бухгалтар,—зусім наадварот: пушка—сорак пяць міліметраў, а мінамёт—восемдзесят два.

І ён урачыста паказаў свой запіс.

Але бедны Аляксей Андрэевіч ужо так пазяхаў, што спрачацца не мог.

Камандзір размясціў рэбят у сваёй палатцы. Аляксей Андрэевіч хацеў пакінуць дзяжурных ля плыта, але камандзір паставіў там свайго вартавога. Сапраўдны вартавы ахоўваў у гэтую ноч слаўны піонерскі плыт «Гроб фашыстам», а загадчык пераправай і сямёра яго памочнікаў, прыкрытыя шынялямі, салодка спалі ў камандзірскай палатцы.

Раніцою часць адыходзіла на новыя пазіцыі.

Рэбят разбудзілі, пакармілі смачным снеданнем. Камандзір падышоў да Аляксея Андрэевіча і паклаў яму руку на плячо.

— Ну, Аляксей Андрэевіч,—сказаў ён,—дзякуй табе за службу. Спатрэбілася нам твая пераправа. Што-ж табе падарыць на ўспамін?

— Ды што вы! Мне нічога не трэба.

— Пачакай,—спыніў яго камандзір.—Вось, Аляксей Андрэевіч, друг, атрымлівай ад мяне. Насі з пачотам. Дарэмна не бахай і не пагражай. Зброя баявая.—І, адшпіліўшы свой наган, ён працягнуў яго загадчыку пераправы.

У рэбят загарэліся вочы ад зайздрасці. Аляксей Андрэевіч узяў абодвума рукамі рэвальвер. Ён павольна павярнуў яго і асцярожна прыцэліўся ў дрэва.

Камандзір, узяўшы яго за руку, нахіліўшыся, направіў прыцэл. Усе маўчалі. Аляксей Андрэевіч хацеў нешта сказаць, адкрыў рот, але быццам задыхнуўся на хвілінку, кашлянуў і прамаўчаў. Вось яна, здзейснілася яго мара!.. Сапраўдны наган, баявая зброя, цяжкі, сталёвы, сямізарадны, ляжаў у яго ў руцэ, належаў яму.

Але раптам ён уздыхнуў і працягнуў наган камандзіру.

— Нельга,—ціха прагаварыў ён,—нельга мне яго пры сабе... Трапіш яшчэ да немцаў, абшукаюць, вось і дазнаюцца, што мы разведчыкі.

— Што ты, Лёшка!—не вытрымаў Валёк-даручэнец.—Бяры!

— Я табе не Лёшка... сто разоў сказана.—Я-ж не за сябе непакоюся. А праз гэта ўсіх нас пастраляць могуць. Мы павінны скрытна дзейнічаць. Як быццам зусім простыя, вольныя рэбяты. А тут адразу зразумеюць, што мы разведчыкі. Не, ужо вазьміце, таварыш камандзір.

І, не пазіраючы на камандзіра, ён сунуў яму рэвальвер.

Камандзір не раз успамінаў у той дзень маленькага загадчыка пераправы. Вельмі важныя звесткі далі камандзіру рэбяты. Фашысцкі батальён з танкамі і двума ўзводамі матацыклістаў быў разгромлены ў гэты дзень. Вечарам камандзір складаў спіс байцоў, якіх прадстаўляў да ўзнагароды, і першым ён запісаў імя піонера Аляксея, загадчыка пераправы праз раку Н., слаўнага камандзіра плыта «Гроб фашыстам».

Рэдактар *В. Няміра.*
Тэхрэдактар *Я. Карпіновіч.*
Карэктар *Р. Каплан*

АТ 31351. Падпісана да друку 26/XII 46 г. Тыраж 30.000 экз. Папера 60×84 1/16. Вуч.-аўт. арк. 2,5. Друк. арк. 3 1/2. Заказ № 3[illegible]0.

Друкарня ім. Сталіна. Мінск, Пушкіна, 55.